PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 21 (2245) Год XLIV Беласток 23 мая 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Свята перамогі

Аляксандр Вярбіцкі

У суботу, 8 мая, калі Дзень перамогі адзначаюць заходнія саюзнікі, стаяла цёплая сонечная пагода. У нядзелю, 9 мая, калі тое ж самае свята адзначаюць у дзяржавах СНД, надвор'е рэзка перамянілася: з раніцы ішоў зябкі дождж; так Беласток прывітаў ветэранаў Савецкай Арміі, якія прыехалі сюды ўшанаваць памяць сваіх баявых таварышаў. Паездку гэтую арганізавала Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку і ветэранскія арганізацыі Польшчы, Беларусі, Расіі і Украіны.

На Камунальных могілках у Беластоку, дзе я чакаў прыезду франтавікоў, у пэўную хвіліну падышла да мяне пажылая але шустрая жанчына і папрасіла, каб я патрымаў яе парасон; яна запаліла лампадку на адной з брацкіх савецкіх магіл. Спытаў я, ці мо хто з яе блізкіх ляжыць там, а яна адказала, што ёй там усе блізкія. Затым расказала яна мне, як у 1941 годзе немцы гналі савецкіх палонных, дзецюкоў яшчэ, і яны прасілі ў жыхароў Беластока хлеба. І знайшліся сярод беластачан такія, якія радаваліся няшчасцю палонных, маўлялі: так ім трэба, захопнікам...

У Дзень перамогі на ўрачыстасці ўшанавання памяці пахаваных на беластоцкіх могілках савецкіх салдат, якія загінулі ў баях за вызваленне горада, не было відаць прадстаўнікоў беластоцкіх ні гарадскіх, ні ваяводскіх улад... Мо ўсе недзе пільна маліліся...

А кароткі малебен адбыўся і на могілках. Апрача прыехаўшых гасцей прысутнічалі на ім мясцовыя ветэраны і тыя нешматлікія добрыя людзі, як згаданая раней жанчына, якім сумленне не дазваляе праводзіць гэты дзень абыякава. Былі таксама і прадстаўнікі ад нашых беларускіх арганізацый: Пятро Крук, Валянціна Ласкевіч і Пятро Юшчук. Былі і сябры „Нівы": Міхась Хмялеўскі і Васіль Петручук.

Далей госці направіліся на ваенныя могілкі ў Замбраў. Там таксама былі ўскладзены вянкі і адбыўся кароткі праваслаўны малебен. Як жа цёпла на душы было там бачыць прадстаўнікоў тамашніх улад: павятовага старасту, бурмістра горада і камандуючага гарнізонам, якія прыйшлі ўшанаваць памяць шасцідзесяці мільёнаў ахвяр другой сусветнай вайны, з якіх каля пятнаццаці тысяч маладых людзей з далёкіх куткоў Савецкага Саюза знайшлі вечны адпачынак на замбраўскай зямлі. А ганаровую варту ля помніка чырвонаармейцам трымалі, натаўскія ўжо, салдаты з аўтаматамі Калашнікава...

Празябнутых гасцей пасля ўрачыстасці чакаў там жа на месцы сюрпрыз — франтавы пачастунак: чарка гарэлкі, скібачка чорнага хлеба і лустачка сала. Затым госці паехалі на абед у ваенную часць у Чырвоным Бары.

[працяг ☞ 10]



Рэжыму не заўсёды хочацца разганяць немнагалюдныя шэсці пад бел-чырвона-белымі сцягамі.

# У Беларусі няма вогненных слупоў

Мікола Ваўранюк

**Пост ДАІ на шашы Гродна — Мінск. Шэсць гадзін раніцы. Голае поле, тры загароды. Каля апошняй стаяць міліцыянты. Спыняюць, даюць штраф. У нас няма беларускіх рублёў. Гэта не праблема — сто метраў далей кантора. Міліцэйскі пост, кантора і больш нічога ў голым полі. Долар у гэтай канторы таго ранка каштаваў 280 тысяч беларускіх рублёў. У Мінску ў той жа дзень валютчыкі плацілі па 380-390 тысяч. Самаакупаемы пост. Правы эканомікі.**

Эканоміцы краіны прысвячалася пасяджэнне Савета Міністраў 27 красавіка. Наступнага дня „Звязда" пераказвала даклад прэм'ер-міністра Сяргея Лінга: „...у першым квартале ураду ўдалося некалькі стабілізаваць сітуацыю, забяспечыць рост аб'ёмаў вытворчасці ў шэрагу галін, захаваць спажывецкі рынак, стварыць базу для веснавой сяўбы, што ў цэлым сведчыць аб наяўнасці рэзерваў эфектыўнай работы. Рост валавога ўнутранага прадукту да адпаведнага перыяду мінулага года склаў 101 працэнт, прамысловая вытворчасць павялічылася на 4,1 працэнта, больш выпушчана спажывецкіх тавараў". Але гэтыя дасягненні не задаволілі прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку і ўся Беларусь магла ўбачыць па тэлебачанні, як ён дае ураду! „Слушна", — прызнаўся на тым жа пасяджэнні прэм'ер Лінг. Тут да адмоўных ацэнак прэзідэнт дадаў плюс і той сам урад надалей будзе падымаць паказчыкі беларускай гаспадаркі.

А падымаць ёсць што. Вось напрыклад: „у гаспадарцы „Сямкова" Лагойскага раёна, — казаў у той жа справаздачы прэм'ер-міністр дзесяцімільённай дзяржавы, якая не так даўно мела ядзерную зброю, а цяпер гатова супрацьстаяць усёй магутнасці НАТО ў абароне Югаславіі, — надоі малака склалі ўсяго 857 кілаграмаў на карову".

Малако, гэта, так сказаць, свайго роду рарытэт. Але і простая бульба апошнім часам набывае ў Беларусі стратэгічнае значэнне. З-за кантрабандыстаў, якія расцягваюць яе па ўсёй неабдымнай прасторы былога СССР. З гэтымі практыкамі змагаецца беларуская міліцыя. Часам паспяхова. У пачатку мая газеты пісалі пра затрыманы ў Пінску грузавік бульбы, які адпраўляўся ў Расію.

У мінскіх крамах ёсць не толькі бульба, але і што заўгодна: мяса, сала, каўбасы, рыба, сыр, піва, гарэлка. Прычым толькі апошняя ўсім па кішэні — нейкіх 70 цэнтаў (гэта значыць, што ў Польшчы каштавала б менш за 3 злоты). Але ўжо пакуль купіць каўбасу за 3 долары, чалавек спярша задумаецца. Нават, калі зарабляе ў месяц 20 долараў, што не кожнаму ўдаецца.

Людзі зарабляюць, вядома і больш. Відаць гэта хаця б па шыкарных машынах на вуліцах Мінска, па элегантнай вопратцы жанчын, якая з аднаго боку яшчэ падкрэслівае і так іх надзвычайную прыгажосць, а з другога, не пасуе да ўсяе інфраструктуры двухмільённага горада-героя — да цяжкіх муроў з аблупленым тынкам, да дзіравых тратуараў, да раскопаў і брудна-шэрых будоў, якія ў Мінску цягнуцца вечна.

[працяг ☞ 2]

## Беласточчына — стрыжань епархіі

Беластоцкія і навакольныя прыходы з'яўляюцца стрыжнем епархіі. У астатняй частцы епархіі праваслаўныя жывуць у дыяспары, напрыклад у Вармінска-Мазурскім і Паморскім ваяводствах. Там некаторыя прыходы вельмі кволыя і патрабуюць падтрымкі.

[размова з епіскапам Іакавам ☞ 3]

## Другі бок медаля

Штораз больш выразна відаць, што ў гэтай вайне не ідзе пра вырашэнне нацыянальных пытанняў на Балканах і выконванне правоў чалавека, але аб заспакаенне амбіцый палітыкаў, якія імкнуцца стаць правадырамі свету. А пра тое, што гэта часткі палякаў не падабаецца, сведчаць букеты кветак і знічы пад сербскім пасольствам у Варшаве.

[польскі друк аб Косаве ☞ 4]

## Доктар філасофіі

У 1941 годзе Мікалай Чарнецкі падаецца ў Беласток, там наладжвае сувязі з Хведарам Ільяшэвічам і Уладзімірам Тамашчыкам, галоўнымі арганізатарамі беларускага грамадска-палітычнага жыцця ў Беластоку пры нямецкай акупацыі. У 1943 годзе выбраны сакратаром Беларускага аб'яднання. Загінуў пакутніцкай смерцю 19 студзеня 1944 года, на сорак пятым годзе жыцця ў Галоўках, што непадалёк Беластока, з рук польскага падполля.

[біяграфія і ўспаміны ☞ 5]

## Найлепшыя ў ваяводстве

У „Агульнапольскім рэйтынгу ліцэяў '99" (вынікі за мінулы навучальны год) Бельскі беларускі ліцэй заняў сёмае месца. Апярэдзілі яго толькі школы з вялікіх гарадоў: Вроцлава, Кракава, Лодзі, Варшавы і Быдгашчы. Стаў ён найлепшым ліцэем не толькі ў былым Беластоцкім ваяводстве, але і ў цяперашнім Падляшскім. Поспехам пасадзейнічалі чатыры лаўрэаты і адзінаццаць фіналістаў.

[ліцэй-выдатнік ☞ 8]

## Беластачане спяшаюць з дапамогай

Сэрца праваслаўнага чалавека чулівае. Як толькі ў Праваслаўным брацтве святога Мікалая даведаліся, што людзям на Беларусі патрэбна неадкладная дапамога, яны пачалі рыхтаваць дары. Генеральны консул Рэспублікі Беларусь Мікалай Крэчка так і сказаў: „Прыпяць разлілася... Ёсць пацярпеўшыя ад паводкі".

[гуманітарная дапамога ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Ці смяяцца, ці плакаць... або выбіраць

З 6 па 16 мая ў Беларусі праходзілі, арганізаваныя апазіцыяй, выбары прэзідэнта. 11 мая Цэнтрвыбаркам аб'явіў, што ўдзел у выбарах ужо прыняло 1 мільён 722 тысячы 42 чалавекі або 22,82% грамадзян Беларусі.

Гледзячы на тое, што выбары праходзілі ва ўмовах ціску з боку дзяржавы, калі не было выбарчых участкаў, спісаў выбаршчыкаў, сябры выбарчых камісій арыштоўваліся — такія лічбы выклікаюць недавер не толькі ва ўладаў, але і ў грамадстве.

Рэзкі пратэст супраць шматдзённага галасавання выказаў адзін з кандыдатаў у прэзідэнты Зянон Пазьняк. Яшчэ 7 мая ён даслаў у Беларусь зварот да выбаршчыкаў, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: „Беларускіх выбаршчыкаў (і мяне як кандыдата) уцягваюць у безадказную дрэнную справу. Выбары антызаконным метадам (і тым больш — з прыкметамі ашуканства) не будуць прызнаныя Народным фронтам, міжнароднай супольнасцю і беларускім грамадствам". Лідэр БНФ лічыць, што выбары павінны былі праходзіць у строгай адпаведнасці з законам у адзін дзень — 16 мая. У выпадку гвалтоўнага спынення выбараў уладамі „... юрыдычная, палітычная і маральная перавага і праўда засталіся б за арганізатарамі і ўдзельнікамі выбараў".

12 мая газета адміністрацыі прэзідэнта „Советская Белоруссия" на першай паласе надрукавала вялізны артыкул з падзагалоўкам „Позняк обвиняет оппозицию в политическом шулерстве".

У той жа дзень у штаб-кватэры БНФ у Мінску адбылася прэс-канферэнцыя, на якой лідэры Народнага фронту тлумачылі сваю пазіцыю. Яны прывялі прыклады парушэнняў з боку Цэнтрвыбаркама на чале з Віктарам Ганчаром і выказалі нежаданне таго, каб Фронт быў замешаны ў непрыстойныя справы. 13 мая Зянон Пазьняк зняў сваю кандыдатуру і заклікаў сяброў Народнага фронту спыніць свой удзел у выбарах.

Пікантнасць сітуацыі складаецца ў тым, што асноўны цяжар па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў на месцах узялі на сябе сябры БНФ. Дзесяткі франтаўцаў былі прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці, некаторыя пазбавіліся працы. Менавіта ў БНФ звярталіся людзі, якія жадалі прагаласаваць. Таму, напрыклад, у Гродзенскай вобласці датэрміновае галасаванне працягвалася. 14 мая на пасяджэнні Гродзенскай рады БНФ было вырашана не спыняць выбары, а на наступны дзень у памяшканні Фронту партрэт Зянона Пазьняка быў завешаны партрэтам Францыска Скарыны.

Улады як маглі перашкаджалі выбарам. „Вертыкаль" выкарыстоўвала не толькі гвалт, але і правакацыі. 11 мая ў Гродне сябра выбарчай камісіі Андрэй Заянчкоўскі быў выкліканы на адну з кватэр, гаспадары якой быццам бы хацелі прагаласаваць. Але, па вызначаным адрасе спадара Заянчкоўскага чакалі міліцыянеры. На наступны дзень ён быў аштрафаваны на 6 мільёнаў рублёў. Затрыманні людзей з выбарчымі скрынямі адбываліся таксама ў Слоніме, Дзятлаўскім і Астравецкім раёнах. 6 мая ў Гродне было затрымана некалькі прадстаўнікоў выбарчых камісій, якія выйшлі са скрынямі для галасавання на вуліцы горада. На ўсіх у міліцыі былі складзены пратаколы. Тым не менш выбары адбываліся надзвычай актыўна. У штаб-кватэру БНФ, дзе быў абсталяваны стацыянарны выбарчы ўчастак, людзі ішлі даволі масава. Цікава, што большасць выказвалася не за канкрэтнага кандыдата, а супраць Лукашэнкі.

**Зміцер Кісель**

## Здача Беларусі адкладваецца

Сесія парламенцкага схода Саюза Беларусі і Расіі, якая павінна была адбыцца ў Гродне 11-12 мая, перанесена на нявызначаны тэрмін. Такое рашэнне зыходзіла ад расійскага боку. Яно стала нечаканасцю як для прыхільнікаў адраджэння імперыі, што абасноўваліся на Беларусі, так і для беларускіх патрыётаў.

Сход, які не адбыўся, мог мець вельмі важнае значэнне. На ім планавалася прыняць праект дамовы пра аб'яднанне Беларусі і Расіі ў адзіную дзяржаву і разгледзець пытанне пра далучэнне да новаўтворанага „саюза" Югаславіі. Таму да сесіі ўзмоцнена рыхтаваліся і ўлады, і апазіцыя.

На працягу красавіка ў Гродне спешна рамантаваліся разбітыя за зіму дарогі. Прычым, па месцах рамонту можна было вызначыць, куды меркавалі завезці сваіх гасцей гродзенскія вертыкальшчыкі. За некалькі дзесяткаў метраў ад планаванага маршруту ямы на дарогах рамонтнікаў не цікавілі, а там, дзе павінны былі праязджаць дэпутаты парламенцкага схода, асфальт ліўся без шкадавання. Дзе-нідзе рабочыя нават не звярталі ўвагі на каналізацыйныя люкі, якія хаваліся пад тоўстым слоем дарожнага пакрыцця.

Адразу кідалася ў вочы значнае павелічэнне колькасці міліцыянераў на вуліцах горада. Улады рыхтаваліся „дать отпор любым проискам оппозиции". А тое, што такія „происки" былі б, сумнявацца не прыходзілася. Выказаць свой пратэст знішчэнню беларускай дзяржаўнасці збіраліся не толькі гарадзенцы, але і жыхары іншых гарадоў Беларусі. Удзельнікі несанкцыянаванага шэсця 25 красавіка, якое скончылася жорсткай бойкай з міліцыяй („Ніва", № 19), не хавалі, што адной з мэтаў іх акцыі было паказаць — у Беларусі ёсць людзі, якія здольныя абараніць незалежнасць. Абстаноўка ў горадзе накалялася з кожным днём. Улады не дазволілі праводзіць 11 мая мітынгу ў падтрымку суверэнітэту краіны прадстаўнікам Беларускага народнага фронту, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Але падрыхтоўка да мітынгу вялася поўным ходам.

Невядома, што тварылася б на старажытных вуліцах Гродна 11-12 мая, каб не вестка, якая прыйшла 6 мая з Масквы. Расійскі бок выказаў жаданне адкласці сесію парламенцкага схода. Афіцыйнай прычынай гэтага абвяшчалася незакончаная распрацоўка саюзнай дамовы. Відаць, у Расіі хапае турбот і без Беларусі. Над Ельцыным павісла пагроза імпічменту з боку Дзяржаўнай Думы. Яму зусім непатрэбна ўводзіць на палітычную арэну Расіі Аляксандра Лукашэнку, да якога вельмі прыхільна ставяцца камуністы і нацыяналісты з Дзярждумы.

12 мая Ельцын адправіў у адстаўку ўрад Прымакова. 13 мая дэпутаты расійскага парламента пачалі разглядаць пытанне імпічменту. Ні адзін з канфліктуючых бакоў здавацца не збіраецца. Магчыма, хутка саюзную дамову не будзе з кім падпісваць, бо ў Расіі пачнуцца або прэзідэнцкія, або парламенцкія выбары.

Такім чынам, беларускі прэзідэнт, відаць, згубіў шанц далучыць Беларусь да Расіі ў час свайго легітымнага знаходжання пры ўладзе. Па Канстытуцыі тэрмін яго прэзідэнцтва заканчваецца 20 ліпеня. Пасля чаго ўсе яго подпісы на дакументах у вачах міжнароднай супольнасці не будуць мець юрыдычнай сілы. Гэта, безумоўна, не перашкодзіць Лукашэнку дзейнічаць незаконна, тым больш, калі да ўлады ў Расіі прыйдуць камуна-фашысты. Аднак тады аб'яднанне Беларусі з Расіяй будзе ўжо не саюзам, а акупацыяй.

**Зміцер Кісель**

## Прапаў генерал

У Мінску пачалі знікаць лідэры апазіцыі. Вечарам 7 мая былы міністр унутраных спраў, генерал Юрый Захаранка прапаў па дарозе ад аўтастаянкі дадому. Паставіўшы машыну, ён патэлефанаваў жонцы і сказаў, што праз 10 хвілін будзе ў хаце. Аднак да сваёй кватэры не дайшоў.

Жонка шукала яго па бальніцах, у міліцыі, КДБ, Савеце бяспекі, нават у моргах, але нідзе не было вестак пра прапаўшага.

Юрый Захаранка быў першым міністрам унутраных спраў ва ўрадзе Лукашэнкі. Але доўга працаваць з прэзідэнтам ён не змог. Пасля адстаўкі генерал далучыўся да апазіцыі. Выкрываў антызаконныя метады дзейнасці супрацоўнікаў прэзідэнцкіх сілавых структур.

Апошнім часам Юрый Захаранка актыўна займаўся стварэннем Звязу афіцэраў Беларусі, які павінен быў аб'яднаць тых вайскоўцаў, што не згодны са стратай незалежнасці краіны і не хочуць апаганьваць сваю афіцэрскую годнасць служэннем дыктатарскаму рэжыму. Захаранка таксама прымаў удзел у падрыхтоўцы забароненых уладамі выбараў прэзідэнта, быў каардынатарам перадвыбарчага штабу Міхаіла Чыгіра, які ўжо больш месяца знаходзіцца ў турме.

Яшчэ некалькі тыдняў да знікнення Юрый Захаранка заўважыў, што за ім безупынна сочаць. Як паведаміў інфармацыйнаму агенцтву БелаПАН паплечнік Захаранкі па стварэнні ЗАБ палкоўнік Уладзімір Барадач, увесь дзень 6 мая за генералам усюды ездзілі дзве машыны. Калі, выбраўшы зручны момант, Захаранка паспрабаваў даведацца, хто за ім сочыць, людзі ў аўтамабілях пачалі хаваць свае твары і, не ўступаючы ў размову, ад'ехалі.

**Зміцер Кісель**

## У Беларусі няма вогненных слупоў

[1 ☞ працяг]

Таксіст на дзяржаўнай машыне зарабляе ў Мінску прыблізна 50 долараў у месяц, а на прыватнай можа выцягнуць і дзвесце. Спараджае гэта своеасаблівую актыўнасць кіроўцаў. На вуліцы не трэба чакаць таксоўкі, а можна спыніць любое аўто. Мне давялося пракаціцца на „Вольва", мадэль 900 з нечым, цёмныя шыбы, скураныя сядзенні, седзячы на якіх адчуваеш сябе не як на дарозе, а быццам у самалёце. Самае смешнае, што праезд з цэнтра горада да Парку Чалюскінцаў абышоўся ў няцэлы долар. На такой машыне! Мінскія сябры па нумары пазналі, што належыць яна верхняму эшалону ўлады. Відаць, карыстаючыся занятасцю гаспадара, вадзіла рашыў крыху падзарабіць.

Не ўсе ў такім шчаслівым палажэнні.

— У мяне ў Гомелі сястра настаўніца, — расказвае ў сядзібе БНФ мастацтвазнаўца і перакладчык Валеры Буйвал. — Яна на двух штатах зарабляе 13 долараў. Атрымліваецца, што на адну стаўку шэсць. Мне катастрофа раней уяўлялася паводле „Апакаліпсісу" Іаана Багаслова або па карцінах сярэдневяковых мастакоў: з землятрусамі, з вогненнымі слупамі, маланкамі, змеямі, страшным судом. Цяпер бачу, што самая сапраўдная катастрофа называецца „шэсць долараў у месяц".

Гэтае становішча можна назваць іначай — маразм. У Мінску адчуваецца ён праз скуру. Найбольшай культурнай падзеяй пачатку мая быў прыезд на гастролі Алы Пугачовай. Палітычная апазіцыя праводзіць прэзідэнцкія выбары, у поспех якіх сама не верыць. Рэжыму ўжо нават не заўсёды хочацца разганяць немнагалюдныя шэсці пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Прэзідэнт на першамайскае свята замест сваёй асобы пасылае магнітафонную касету. Камуністы мяняюць рыторыку з класавай на славянска-ваенна-патрыятычную. На Плошчы Незалежнасці беларускіх нацыяналістаў ганьбяць нейк без упэўненасці, затое дастаецца НАТО! За Югаславію.

Беларусы глядзяць на падзеі ў сваёй краіне, як быццам збоку, як быццам самі ў іх не ўдзельнічаюць. На развал гаспадаркі, на дутыя заявы прэзідэнта аб вайсковай магутнасці і яго чарговыя поспехі ў яднанні Беларусі з Расіяй. Глядзяць і час ад часу ў якасці каментарыя блісьнуць чорным гумарам. Як хаця б такім: Аб'ядналіся дзень Беларусь, Расія і Югаславія. На другі дзень „Советская Белоруссия" паведамляе: „Сегодня ночью самолёты НАТО бомбили югославские города: Гомель, Могилев, Минск..."

**Мікола Ваўранюк**

*Фота з архіва*

## Да ўваходу ў Еўрапейскі Саюз

13 мая г.г. гасцямі Беларускага саюза ў Беластоку былі **Сузан Нікалас** — другі сакратар Брытанскага пасольства ў Варшаве і д-р **Іаанна Гансан** — даследчык ва ўрадзе Вялікабрытаніі па пытаннях Польшчы, Албаніі і Славеніі. Спадарыня І. Гансан жыла ў Польшчы ў 70-х гадах ды напісала доктарскую дысертацыю па гісторыі нашай краіны.

Госці цікавіліся пытаннямі сужыцця ў нашым рэгіёне беларускай меншасці і палякаў у кантэксце выконвання Польшчай еўрапейскіх стандартаў у галіне нацыянальных меншасцей. На сустрэчу запрошаны былі не толькі прадстаўнікі Беларускага саюза, але і журналісты мясцовай прэсы, якія выступілі ў нештодзённай для сябе ролі апытваных.

Прадстаўніцы брытанскага ўрада не сустрэліся з мясцоваю прадстаўніцай польскага ўрада. **(ам)**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# У кожнага ёсць свой дзень

**28 красавіка г.г. Орля адзначала своеасаблівае свята. У дзень святкавання 70-годдзя настаяцеля царквы св. Іаана Багаслова айца мітрата Аляксандра Такарэўскага прыход наведаў Яго блажэнства Сава — мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы.**



*Злева: Настаяцель а. Аляксандр Такарэўскі, мітрапаліт Сава і а. Георгій Такарэўскі (сын Юбіляра).*

„У кожнага з нас ёсць свой дзень, свой час, свая мінута, — сказаў мітрапаліт Сава. — Сёння свой дзень мае настаяцель гэтага прыхода, айцец Аляксандр Такарэўскі. Дзякуючы яму знаходзімся мы тут, каб у гэтым месцы даць доказ усяму таму, што Бог паклікаў для міру". У гэты дзень нават надвор'е было незвычайнае — вясенні ранак з яркім сонцам нагадваў летнюю пару. Зеляняліся дрэвы, з якіх ліліся радасныя галасы птушак. Прыцаркоўная аўтастаянка запоўнілася аўтамашынамі і трактарамі. Ля парку свае крамкі расставілі цукернікі. Моладзь у гэты дзень не мела заняткаў у школе.

У дзевяць гадзін раздаліся званы і хрэсны ход з удзелам святароў з суседніх прыходаў выйшаў сустрэць мітрапаліта Саву. Немалая Свята-Міхайлаўская царква не памясціла ўсіх прыхаджан і многія вернікі шчыльна запоўнілі пляц вакол храма. Пасля Літургіі і хрэснага хода духавенства, дэлегацыі ад школы і вернікаў віншавалі шанаванага прыхаджанамі айца мітрата Аляксандра Такарэўскага, які палову свайго жыцця правёў менавіта ў Орлі. Мітрапаліт Сава ўзнагародзіў Юбіляра другім крыжам з аздобамі, а жыхарка Орлі Зінаіда Дзянісюк уручыла букет з сямідзесяці чырвоных руж.

**Тэкст і фота Міхала Мінцэвіча**



*Дзеці вітаюць мітрапаліта Саву.*



*Ад імя ўсіх прыхаджан Юбіляра павіншавала Зінаіда Дзянісюк.*

***Пра жыццёвы шлях Юбіляра чытайце на 9 стар.***

# Беласточчына — стрыжань епархіі

**Размова з Яго Праасвяшчэнствам епіскапам Беластоцкім і Гданьскім ІАКАВАМ.**

***— Ваша Праасвяшчэнства, Вы 30 сакавіка 1999 г. рашэннем Святога Сабора Епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы былі выбраны епіскапам Беластоцкім і Гданьскім. 22 мая адбудзецца ўрачыстае ўвядзенне Вас на беластоцкую кафедру. Як Вы ацэньваеце цяперашні стан епархіі?***

— Беластоцка-Гданьская епархія абшырная тэрытарыяльна і розная па дзейснасці прыходаў. Несумненна, беластоцкія прыходы моцныя і вялікія па колькасці вернікаў. Большасць такіх прыходаў будуе новыя храмы і прыхадскія будынкі. У гэтых прыходах актыўна дзейнічаюць царкоўныя і маладзёжныя брацтвы. Гэта, несумненна, заслуга майго папярэдніка ўладыкі Савы, цяперашняга кіраўніка нашай Царквы. Можна, думаю, сказаць, што беластоцкія і навакольныя прыходы з'яўляюцца стрыжнем епархіі. У астатняй частцы епархіі праваслаўныя жывуць у дыяспары, напрыклад у Вармінска-Мазурскім і Паморскім ваяводствах. Там некаторыя прыходы вельмі кволыя і патрабуюць падтрымкі.

***— Як Вы ўжо сказалі, у епархіі вядуцца шматлікія пабудовы храмаў і прыхадскіх дамоў. Працягваецца адбудова Благавешчанскай царквы і будынкаў Супрасльскага манастыра. Якія з пабудоў Вы лічыце найважнейшымі?***

— Несумненна ўсе будаўнічыя інвестыцыі важныя, аднак галоўнымі, і гэта таму, што яны маюць вялікае значэнне не толькі для епархіі, але і для ўсёй нашай Царквы, лічу рамонт будынкаў Благавешчанскага манастыра ў Супраслі і пабудову царквы ў гонар св. мучаніка Гаўрыіла ў Зверках.

***— Наша Царква атрымала Супрасльскі манастыр — у мінулым важны праваслаўны духоўны і культурны цэнтр у Рэчы Паспалітай, які ўздзейнічаў на многія славянскія народы. Ці ў бліжэйшы час удасца аднавіць колішні ранг манастыра?***

— Думаю, што ў жыцці нашай Царквы Супрасльскі манастыр дасягнуў ужо адпаведны ранг. Прыбываюць у Супрасль паломнікі, асабліва моладзь, каб падмацавацца духова, прыступіць да таінства споведзі і прычасця, а таксама атрымаць духоўную параду. Спадзяюся, што Бог дапаможа, каб манастыр развіваўся.

***— Апошнім часам сярод вернікаў многа гаворыцца аб мове пропаведзей. Казанні на беларускай мове можна пачуць у царкве Прамудрасці Божай на Пятрашах. Як Вы ставіцеся да пытання нацыянальных моў у жыцці Царквы?***

— Лічу, што самым галоўным з'яўляецца тое, каб пропаведзь была зразумелая вернікам.

***— Грамадска-палітычныя перамены ў Польшчы выклікалі змены ў асвеце. Узнікаюць школы з каталіцкім ухілам. Па ініцыятыве Брацтва св. Мікалая пачалася дыскусія наконт стварэння школы і гімназіі з праваслаўным ухілам. Прыклад Праваслаўнага цэнтра міласэрнасці паказвае, што варта ствараць грамадскія структуры пад царкоўнай апекай. Што Вы думаеце наконт ініцыятывы Брацтва св. Мікалая?***

— Я поўнасцю падтрымоўваю ініцыятыву брацтва. Думаю, што будзе гэта таксама аднаўленне традыцыі колішніх брацтваў, якія дбалі пра пашырэнне асветы ў праваслаўных асяроддзях.

***— Неабходна запытаць Вас таксама пра экуменічныя справы. Як Вы ацэньваеце адносіны паміж Праваслаўнай царквою і Каталіцкім касцёлам?***

— Адносіны з Рымска-каталіцкім касцёлам ускладніліся, а нават амаль не спыніліся падчас вырашання справы ўласнасці будынкаў Супрасльскага манастыра, і гэта па прычыне касцельнага боку. Жывем мы, аднак, на зямлі, на якой пераважная большасць жыхароў рэгіёна складае два веравызнанні: рымска-каталіцкае і праваслаўнае. І ці хочам мы гэтага ці не, прыгавораны мы на супрацоўніцтва.

***— Чаго б Вы, Ваша Праасвяшчэнства, пажадалі чытачам „Нівы" ў дзень увядзення Вас на епіскапскі прастол?***

— Жадаю перш за ўсё Божага блаславенства, духовай радасці, Божай ласкі ў гэтым жыцці, ну, і цікавых матэрыялаў для чытання.

***— Дзякую за размову і жадаю моцнага здароўя ў выконванні архіпастырскай паслугі.***

**Гутарыў Антон Міранович**

# Адобрылі працу ўлад

У Бельскім доме культуры 30 красавіка 1999 года адбылася VI сесія Рады горада Бельска-Падляшскага, у час якой разглядалася, між іншым, справаздача з выканання бюджэту ў 1998 годзе.

Бурмістр Андрэй Сцепанюк паінфармаваў, што Управа горада зацвердзіла ўжо кандыдатаў на дырэктараў гімназій. У Гімназіі н-р 1 дырэктарам стане Сцяпан Трафімюк, Ірына Сянкевіч будзе дырэктарам Гімназіі н-р 2, а Васіль Ляшчынскі будзе кіраваць Гімназіяй н-р 3 і заадно Падставовай школай н-р 3, у якіх вучні будуць вывучаць беларускай мове. Згаданыя дырэктары, згодна з адпаведнымі пастановамі, ужо ад 15 красавіка г.г. кіруюць новымі гімназіямі і будуць гэта рабіць да 31 жніўня 2001 года, калі будуць аб'яўлены конкурсы.

Бурмістр паведаміў таксама, што паўторныя выбары ў пасялковыя рады, якія праходзілі з 13 па 15 красавіка г.г. закончыліся няўдачай. З-за невялікай прысутнасці немагчыма было выбраць новыя рады. Зараз працуе толькі 5 радаў (на 13 магчымых), якія выбраны былі 31 сакавіка г.г.

Да справаздачы з выканання бюджэту 1998 года былі прад'яўлены заўвагі наконт коштаў парадкавання гарадскіх тэрыторый. Справаздача адобрана была 17 раднымі, 10 устрымалася ад галасавання. Такім жа рэзультатам закончылася галасаванне ў справе адабрэння дзейнасці Управы горада.

Радныя вялі яшчэ ажыўленую дыскусію наконт начных магазінаў з алкаголем, адобрылі працу Гміннага фонду аховы асяроддзя за 1998 год і разглядалі справы звязаныя з забеспячэннем горада ад пажару.

**Аляксей Мароз**

Польскі друк аб Косаве

# Другі бок медаля

**Вайна НАТО з Сербіяй паставіла нас, палякаў, у двухсэнсавай сітуацыі. Як член НАТО сталі мы агрэсарамі, ці гэта камусьці падабаецца, ці не. Слухаючы заяў нашых правадыроў, мы мусім усведамляць сабе, што калі не сёння, дык заўтра яны гатовы паслаць польскіх салдат да ўдзелу ў сухапутным наступленні на традыцыйна дружалюбную Польшчы краіну, славянскую, хрысціянскую. І навошта? Менавіта, каб злавіць нейкага Мілошавіча.**

Аднак каб злавіць яго, трэба знішчыць сербскую армію, трэба бамбардзіраваць стратэгічныя цэлі: аэрадромы, казармы, а таксама аўтазаводы, фабрыкі папяросаў, аміяку, жылыя кварталы, усе масты на Дунаі, тэлеперадатчыкі, адрэзаць краіну ад паставак нафты, зраўняць з зямлёю Прышціну, сталіцу Косава, нягледзячы прытым на ахвяры сярод насельніцтва. Гучыць гэта недарэчна. Аднак яно адбываецца. Штораз больш выразна відаць, што не ідзе тут пра вырашэнне нацыянальных пытанняў на Балканах і выконванне правоў чалавека, але аб заспакаенне амбіцый палітыкаў, якія імкнуцца стаць правадырамі свету. А пра тое, што гэта часткі палякаў не падабаецца, сведчаць букеты кветак і знічы пад сербскім пасольствам у Варшаве.

Прапаганда ў падтрымку мілітарных дзеянняў НАТО вельмі моцная ў Польшчы і нельга здзіўляцца, што многія людзі паверылі аргументам ваеннага лобі, якія прыводзяцца толькі з пазіцыі аднаго боку канфлікту. Лозунг „этнічныя чысткі” мае замкнуць вусны тым, якія гавораць аб відавочным парушэнні блокам НАТО міжнародных законаў і Хартыі Аб’яднаных Нацый. Мае закрыць рот знатакам балканскага пытання, якія паказваюць, што калі выганяліся сотні тысяч сербаў з Харватыі, НАТО не абараняла іх правоў як нацыянальнай меншасці. І тым, якія гавораць, што драма насельніцтва Косава цяпер большая, чым да авіяцыйнага наступлення, а прытым і на сербскім баку растуць смяротныя ахвяры, не ўспамінаючы аб тысячах раненых, пазбаўленых „дзякуючы” бамбардзіроўкам адпаведнай медыцынскай апекі. Які ж сэнс раўняць з зямлёй краіну ў імя правоў чалавека? Як можна ўнушаць сербскаму народу, што гэтая вайна вядзецца не супраць яго? Гэта ж мана, якая сягае неба!

У Польшчы тыя, што вайну ў Югаславіі не ўспрымаюць у чорна-белых колерах, таксама падвяргаюцца націску. Вяршыняй абсурду было рашэнне Краёвай рады Уніі вольнасці, якая апрыёры асуджае ўсіх, хто выступае супраць дзеянняў блока НАТО, паколькі „незалежна ад аргументаў, якімі яны карыстаюцца, выступаюць у абарону генацыду”. Атрымоўваецца, што і Святы Айцец, і Патрыярх усяе Русі, і лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, заклікаючыя спыніць налёты, і мільёны цвяроза думаючых людзей... падтрымоўваюць генацыд. І хто ж такое гаворыць? Партыя, якой эліты славілі ў свой час сталінізм. Пакідаем гэта без каментарыя.

Калі, дай Бог, удасца закончыць вайну і прадухіліць пашырэнне косаўскага канфлікту на ўсю Еўропу, прыйдзе час на праўду. З-падназойлівай прапаганды выглянуць тады абманныя мэты і брудныя метады, схаваныя сёння за шырмай абароны гуманітарных каштоўнасцей. Для незалежна думаючага чалавека становіцца відавочным, што дзяльба ўдзельнікаў канфлікту на „дрэнных” сербаў і „добрых” з-пад сцягоў НАТО і Вызваленчай арміі Косава сведчыць аб палітычнай інфантыльнасці.

Гэта праўда, што рашэннем югаслаўскіх улад Косава страціла аўтаномію, але страціла яе таму, што албанцы не былі лаяльнымі грамадзянамі, не прымалі ўдзелу ў выбарах, не хацелі служыць у арміі, адмаўляліся плаціць падаткі, вучыцца дзяржаўнай сербскай мове, а таксама дыскрымінавалі сваё меншасці — сербскую, турэцкую і іншыя. У дваццацігоддзі, якое папярэднічала канфлікту, Косава пакінула 22 тысячы сербаў. Пасля ўзнікнення ВАК пачаўся адкрыты тэрор. У самім толькі 1998 г. у 1885 атаках загінула 115 югаслаўскіх паліцыянтаў і 142 штацкіх, а яшчэ больш чалавек было параненых і выкрадзеных. Мала гэтага, здараліся выпадкі атакаў албанскіх экстрэмістаў на саміх албанцаў, якія прадстаўлялі згодніцкую ў адносінах да ўлад Сербіі пазіцыю. У 1998 г. з рук пабрацімаў загінула 77 албанцаў, 72 былі паранены, а 101 быў выкрадзены. Апошнім часам ВАК прыгаварыў да смяротнага пакарання косаўскага прэзідэнта Ібрагіма Ругову за яго антываенныя выступленні.

Трэба таксама ведаць, што албанцы — гэта патрыярхальны народ, значыць, рашэнням галавы роду мусяць падначаліцца астатнія члены сям’і. Калі той падтрымоўвае ВАК, астатнія, воляй-няволяй, мусяць ісці па яго слядах. Прытым радыкалізм ВАК і тая мадэль сямейных адносін з’яўляюцца прычынай таго, што пераважная частка насельніцтва Косава знаходзіцца паміж молатам і накавальняй: з аднаго боку знішчаюцца яны сербамі за падтрымку ВАК, а ВАКам — за падтрымоўванне сербаў. Умяшанне НАТО на карысць аднаго боку канфлікту істотна прычынілася да таго, што для шырокай масы мірна настроеных людзей няма ў Косаве месца. Зрэшты гэтая грамадскасць расколваецца з прычыны родавых неладоў, што застаўляе крытычна глянуць на магчымасць стварэння імі сваёй стабільнай дзяржавы згодна еўрапейскім стандартам.

У справе этнічных чыстак, названых ужо генацыдам, таксама трэба быць асцярожным. Несумненна, што ў Косаве з сербскіх рук гінула албанскае цывільнае насельніцтва, невядомым, аднак, застаецца як маштаб гэтай з’явы, так і яго акалічнасці, якія могуць мець значэнне для ацэнкі з пункту гледжання міжнароднага заканадаўства.

Албанскія дамы ў Косаве пабудаваны ў асаблівы спосаб. З боку вуліцы абведзены яны мурам, а ў сцяне няма звычайных акон. Замяняюць іх невялікія адтуліны, цераз якія жанчыны з мусульманскіх сем’яў спаглядаюць на вуліцу, самі застаючыся невідочнымі для прахожых. Падчас змагання ў сербскіх падраздзяленняў з ВАК цераз гэтыя адтуліны высоўваліся дулы вінтовак, а дом станавіўся крэпасцю. У той час сям’я прабывала на тылах дома, быццам свайго роду заложнікі. Калі было так сапраўды, многія выпадкі, якія акрэсліваюцца як пацыфікацыі вёсак, могуць у будучым аказацца вынікам ваенных дзеянняў не накіраваных на мірнае насельніцтва.

Ваенныя карэспандэнты звяртаюць увагу, што бежанцы з Косава, якіх апытвалі наконт сербскіх злачынстваў на мірным насельніцтве, адчуваюць патрэбу перавялічваць маштаб гэтых здарэнняў, што можа давесці да скажэння сапраўднага вобразу падзей. У так сур’ёзных справах нельга паддавацца эмоцыям. Злачынствы, несумненна, былі і трэба іх асудзіць. Аднак — па-першае, здзяйснялі іх абодва бакі канфлікту, а па-другое — ніхто не мае права адначасова быць пракурорам, суддзёю і катам.

Трэба ведаць, што НАТО, называючы сваё наступленне гуманітарнай і хірургічнай аперацыяй, прымяніла ў гэтай вайне г.зв. бомбавыя касеты, забароненыя Жэнеўскай канвенцыяй. Характарызуюцца яны тым, што разрываюцца на тысячу асколкаў, што вельмі „прыдаецца” для забівання людзей. Апрача таго НАТО ўвяло да налётаў на Сербію самалёты А-10, якія прымяняюць амуніцыяю з бедным уранам. Рэшткі гэтых снарадаў нясуць небяспеку ўсяму жывому.

Гэта толькі жменька вестак, якія падрываюць чорна-белую прапаганду ваеннага лобі. А так пры нагодзе — калі б агрэсарам сапраўды залежала на міры і выконванні правоў чалавека на Балканах, замест бамбардзіраваць Сербію, перакрылі б прыток узбраення для ВАК (дарэчы, фінансаванага наркабізнесам). У Косава быў шанц вярнуць аўтаномію, калі б Югаславія атрымала міжнародныя гарантыі тэрытарыяльнай цэласнасці краіны.

Сёння НАТО ўзбройвае албанцаў, каб іх рукамі перамагчы на сушы Мілошавіча, пры падтрымцы натаўскай авіяцыі. Не трэба вялікага ўяўлення, каб прадбачыць, што скончыцца гэта крывавай разнёй сербскага мірнага насельніцтва. Што тады скажуць свету сённяшнія абаронцы чалавечых правоў?

**Малгажата Гос**

*„Nasz Dziennik”, nr 103 (384) z 5 maja 1999 r.*

# Панурая вясна ў Еўропе

Агрэсія Злучаных Штатаў Амерыкі і іх саюзнікаў на Сербію змяніла атмасферу ў Еўропе. Пад уплывам прапаганды прыгнятаючая большасць палякаў з адабрэннем успрымае кожную вестку аб разбураных сербскіх гарадах, мастах, фабрыках. Гэта ўжо іх вайна, як грамадзян амерыканскага блока, да якога імкнуліся доўгімі гадамі. Сёння прэзідэнт Кваснеўскі заяўляе ад імя ўсяго народа гатоўнасць выканаць усе саюзныя абавязкі. Нават найбольш актыўныя апазіцыянеры ў гэтай справе пагаджаюцца з нефармальным лідэрам посткамуністаў.

* * *

Мой знаёмы, паляк, які быў жанаты з праваслаўнай і пару дзесяткаў гадоў не быў у касцёле, сёння вярнуўся да „сапраўднай веры” — як заявіў суседзям. Раней адкрыта выявіў жаданне зраўняць Сербію з зямлёю, а з праваслаўнымі, якія мелі іншы пункт гледжання, звычайна пасварыўся. Югаслаўскі канфлікт яшчэ больш выразна паказвае цывілізацыйныя падзелы ў Беластоку. Мяжа між „нашымі” і „не нашымі” ідзе паралельна да падзелу на веравызнанні. Праваслаўныя палякі арганізуюць дапамогу сербам, палякі-католікі — мусульманам, якія змагаюцца з праваслаўнымі сербамі.

* * *

У Расіі спыніліся пратэсты супраць разбурання Сербіі. Амерыканскія банкі абяцалі даць гаспадарам Крамля 4,5 мільярда долараў. Расійскае дзяржаўнае тэлебачанне ў справе югаслаўскай вайны пачало гаварыць голасам натаўскіх прэс-сакратароў.

* * *

Святкаваць юбілей 50-годдзя Паўночнаатлантычнага дагавора ў Амерыку паехалі амаль усе прэзідэнты былых камуністычных краін усходняй Еўропы і былых савецкіх рэспублік. З такой самай малітоўнай адданасцю глядзелі яны на Біла Клінтана, як іх папярэднікі на Леаніда Ільіча Брэжнева.

* * *

У Беларусі гучна адзначаўся Дзень перамогі над фашызмам. Зноў выйшлі на вуліцы дзядулі і бабулі, згорбленыя пад уплывам часу і цяжарам медалёў на грудзях. Прэзідэнцкае тэлебачанне, радыёвяшчанне, прэса некалькі дзён паказвалі герояў „Отечественной войны”. Ганарыліся яны, што мелі нагоду „защищать советскую Родину”. Партрэты Сталіна сведчылі аб тым, што ветэраны ўдзячны яму за тое, што даў ім такую магчымасць.

* * *

Падчас II сусветнай вайны ў акупаванай немцамі Беларусі загінула звыш 2 мільёны людзей. На тэрыторыі на два гады даўжэй акупаванай Чэхіі загінула пару тысяч чалавек. Чэхі — гэта таксама славяне.

* * *

10 травеня вырашыў я не слухаць і не глядзець навін па тэлебачанні і радыё, не чытаць „Газеты выбарчай”. Я сам сабе аб’явіў „дзень без крывадушніка”. Веласіпедная экскурсія з сынамі за межы горада ўсведаміла мне, што сёлетняя вясна не мусіць быць такая панурая.

**Яўген Мірановіч**

# Дзеля абароны палякаў у Беларусі

З воклічамі „Польскім дзецям польскія школы!” і „Роўныя правы палякам!” пад Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь дэманстравала Рэспубліканская ліга. Дэманстрацыя прайшла 8 мая. Прыняло ў ёй удзел каля 20 асоб.

Удзельнічалі ў пікеце, апрача Рэспубліканскай лігі, члены Руху маладых РС АВС і Усяпольскай моладзі, а таксама Маладыя кансерватары АВС. Дэманстранты трымалі транспаранты з лозунгамі: „Досыць парушання правоў палякаў у Беларусі” і „Патрабуем школ для польскіх дзяцей”.

Консулу Мікалаю Крэчку была даручана пісьмовая заява. Патрабуецца ў ёй правоў для польскай нацыянальнай меншасці згодна „міжнародным канвенцыям і пагадненням, падпісаным Рэспублікай Беларусь, у тым ліку двухбаковай дамове з Польшчай”. Дэманстранты дамагаліся будовы польскіх школ у Навагрудку, Лідзе, Варанаве і Гродне, адпаведнага забеспячэння кніжкамі і дапаможнікамі тых школ, дзе вядзецца навучанне польскай мовы, а таксама спынення „ціхай вайны” з бацькамі, якія пасылаюць свае дзеці ў польскія школы (між іншым, у Лідзе і Брэсце).

„Хочам, каб забеспячэнне патрэб палякаў у Беларусі было падобнае, як беларусаў у Польшчы, — чытаем у заяве. — Асабліва, калі гаварыць пра дзяржаўныя датацыі на культурныя і адукацыйныя мэты ды доступ да сродкаў масавай інфармацыі, г.зн. дзяржаўнага тэлебачання, радыё і г.д.”

**(ак)**

# Верыў, што Беларусь не загіне

Ганна Кандрацюк

**Гаварыў: свет скончыцца, а Беларусь усё роўна будзе. Памятаю як са мной, малечай, жартаваў, што як будзе Беларусь, ён стане яе прэзідэнтам, а я буду яго сакратаркай. Праўдзівы быў беларус, такіх людзей сёння няма, — успамінае доктара філасофіі Мікалая Чарнецкага яго хросная дачка Агрыпіна Буйко з Беластока (з дому Чарнецкая, год нараджэння 1930).**



Фота з архіва Ю. Туронка

— Усё жыццё людзі цікавіліся маім імем, дзе б я не была, ці ў санаторыі, ці ва ўстанове нейкай, заўсёды казалі: *to ładne imię, niespotykane*, — адзначае спадарыня Агрыпіна Буйко, маці праваслаўнага святара.

Гэта мой хросны бацька такое імя прыдумаў, з Чэхіі прывёз, — адказвала тады пані Агрыпіна.

Праўда, у Беластоку ведалі яе як Гражыну, а ў сям'і — як Груню.

— У хаце не маглі гэтага імя здумаць, то ў канцы на сцяне запісалі, каб не забыцца. І казалі, што за хрысціны хросны двайную цану бацюшку заплаціў, хаця спецыяльна ў Бога не верыў. А як везлі з царквы, то ўсім дзецям цукеркі кідалі. Хросны дзве торбы шакаладных цукерак прывёз. І яшчэ расказвалі, што на хрысцінах ён першы раз так блізка побач дзяўчыны сядзеў. Нясмелы быў, уражлівы. Ды і за навукай свету не бачыў, усё ў кніжках сядзеў. А хроснай запрасілі цёцю Юлю, паненку, сястру маці Агрыпіны Буйко. Доктару Чарнецкаму трыццаць адзін год было.

## Вырашыў мяне ратаваць

— Я ў Ільяшэвіча пару месяцаў пражыў, — успамінае Анатоль Чарнецкі (год нараджэння 1923, брат Агрыпіны Буйко), сын дваюраднага брата Мікалая Чарнецкага). — Была такая *гісторыя*. Як прыйшлі немцы, забралі мяне на работу разносіць торф. І там ляжаў стары акумулятар ад самахода. Я ўзяў яго, каб аднесці і выкінуць. І на сваё гора, з акамулятара выліўся квас і пырснуў у твар, цэлае вока было спаленае. Дзядзька, бо так прыходзіўся мне доктар Мікалай Чарнецкі, вырашыў мяне ратаваць. І мы, ноччу, фурманкай падаліся ў Беласток, да лекара. І якраз у Ільяшэвіча спыніліся. Яшчэ і сёння гэты мураваны дом, што на вуліцы Мадлінскай, стаіць. Кожны дзень я хадзіў да лекара яўрэя ў амбулаторыю на перавязку. І вылечыўся. У доме Ільяшэвіча ўся віленская эміграцыя сустракалася. Я часам прыслухоўваўся, якія ў іх цікавыя планы былі. Яны мелі ўжо назначаны ўрад Беларусі. Раз, памятаю, так пачалі спрачацца, што аж пісталеты павымалі. Чуў як Ільяшэвіч намаўляў дзядзьку ўключыцца ў працу Беларускага камітэта. Але ён з імі сварыўся, ненавідзеў фашыстаў і не хацеў з імі супрацоўнічаць.

— Я, — казаў, — жыдоў біць не буду!

Пазней я здзівіўся, калі прачытаў, што дзядзька быў сакратарам Беларускага камітэта.

## Гвоздзь у вока

— Памятаю як жартаваў са мною. Браў на рукі і казаў, што як будзе Беларусь, то ён стане прэзідэнтам, а я яго сакратаркай, — прыгаварвае Агрыпіна Буйко.

— У Азяранах-Малых ведалі, што доктар Чарнецкі жыве для Беларусі.

— І ніхто з людзей да яго прэтэнзіі за гэта не меў, кажа Анатоль Чарнецкі. — Хаця, як прыязджаў да нас, пад акном сышчыкі круціліся. Цікавіліся ці не камуніст ён часам? Паліцыя таксама з пяць разоў у Крынкі клікала. Каб быў цёмным прасцяком, дык яшчэ да вайны з ім паконч ылі б. Бо што тады вялікі беларус, — гвоздзь у вока! Праўда, да вайны лічыліся з ім, ён жа доктар, чалавек *выкшталцоны*, пагутарыць з ім камендант і адпускае дадому. Казаў, што прапанавалі яму добрую працу. Адмовіўся.

— Хопіць, што мае таварышы пайшлі на вашую службу, — сказаў тады.

Бо для яго была толькі Беларусь і ўсё!

— Такіх людзей цяпер няма, — кажа Агрыпіна Буйко. — гэта быў *праўдзівы* беларус.

— І мяне ўмовіў, — успамінае братанак доктара Чарнецкага. — Перад вайной святкавалі ў Польшчы Дзень мора, урад дамагаўся каленіі.

— Ці Польшча мае каленіі, — папытаў мяне дзядзька, якраз у Дзень мора.

— Не, — кажу.

— А Беларусь?

— І пазней я адцярпеў за гэта, — дадае Анатоль Чарнецкі.

— Калі ў 1938 годзе пайшоў я ў Свіслач у гімназію, запісаўся беларусам. Праз некалькі дзён паклікалі бацьку і параілі забраць мяне са школы. Хаця я адказваў не горш за другіх, адны двойкі мне ставілі. Наведаў мяне таксама асобень з палітычнай паліцыі, пераапрануты ў кажушок і намаўляў паехаць у савецкі рай. Але я дадумаўся. І сказаў — замалады на падарожжы.

## Такі просты, справядлівы чалавек

— Яшчэ будучы студэнтам да нас на вакацыі прыязджаў. З Чэхіі. Мяжу перасякаў нелегальна, пяшком, цераз „зялёную” граніцу. Пераапранаўся за селяніна, браў на пляча касу, — расказвае Анатоль Чарнецкі.

— Або так: бярэ парванае адзенне, шапку задам дапераду, касу на плечы і вар'ятам прыкідваецца. Пагранічнікі глянуць, паківаюць галавой і хай сабе вар'ят ляціць, — дадае хросная дачка.

— Бо так папраўдзе ён быў высокі, прыстойны, *красівы, элеганцкі, ладны*, ну такі *фацэт* напаказ. Такі чысты, так прыгожа пахнеў. Наша старэйшая сястра ім займалася. Пасцель гафтаваную яму засцілала, глядзела, каб ручнік чысты быў, прымалі яе як госця вялікага, — успамінае Агрыпіна Буйко.

— Але ён нармальны быў. Есці з намі разам сядаў, разам гаварыў, не то каб удаваў нейкага губернатара, ці вучонага — не! Гэта быў такі просты, справядлівы чалавек. І такі, што апошнюю кашулю з сябе здыме, разарве і падзеліць.

— Мы ў адной хаце народжаны, — адзначае Анатоль Чарнецкі. — Прыязджаў да нас, бо тут была яго родная хата. А другая справа — не меў больш нікога ў Азяранах. Яго бацькі яшчэ да бежанства ў Мінск выехалі, там мелі сваю краму. Зямлю нам прадалі. Да самой вайны мой дзед і бацька сплачвалі доўг дзядзьку Мікалаю. Памятаю, як мая матка аднойчы яго папытала:

— Мікалай, што ты з грашыма робіш? Ты ж працуеш, і яшчэ мы табе плацім, скажы дзе ты грошы дзяваеш?

— Сябрам трэба дапамагаць. Сябры працы не маюць. Што дзядзька рабіў у Вільні, чым займаўся, не ведаю, і дзе тыя яго грошы ішлі. Толькі як прыязджаў у Азяраны, заўсёды прывозіў поўную валізку шакаладак. Я часам падкрадаў тыя шакаладкі.

## Гаварыў праўду ў вочы

— Цяжка яму было, — кажа мой субяседнік. — нават як стаў дырэктарам школы ў 1939 годзе ў Крынках. Анатоль Чарнецкі быў вучнем свайго дзядзькі.

— Запамяталася мне такое здарэнне, — успамінае. — Вучылі нас жонкі савецкіх афіцэраў і энкавэдзістаў. Амаль усе прадметы былі на рускай мове. Аднойчы ў школе наладзілі выстаўку. Сярод наведвальнікаў быў савецкі капітан, бо ў Крынках стаяла *едностка* танкістаў. Ды ён, пабачыўшы беларускія надпісы, кажа сваёй жонцы: *Слушай, не люблю я никак этой белорусской мовы, ведь она такая грубая*. Як дзядзька такое пачуў, напаў на таго капітана.

— Кожная мова ёсць прыстойная, трэба яе толькі вывучыць! А вы якую, апрача расейскай, ведаеце?

Той савет пачырванеў, апусціў вочы і папрасіў у дзядзькі прабачэння. Дзядзька Мікалай абараніў мяне ад закідаў палітычнага стоража школы, 18-гадовага камсамольца, які пільна сачыў за паводзінамі вучняў. Я меў *сімпатыю*. І гэты камсамолец далажыў яму, што я „польскі пан”, бо хаджу пад гальштукам і „встречаюсь с девушками”. А „ученик не должен с девушками...”

— І што ён дрэннае зрабіў, — доктар

[*працяг* ☞ **9**]



*Сяброўская група маладых беларускіх сацыялістаў. Вільня, 1937 г. (?) Злева: Алесь Баранавіч, NN, Антон Шукялойць, Яўген Аніська, Мікола Чарнецкі, Анатоль Бярозка (Мітрафан Смаршчок).*

Фота з архіва М. Смаршчка

**Доктар філасофіі Мікалай Чарнецкі (1899-1944)** — палітычны дзеяч, тэарэтык беларускай сацыялістычнай (эсэраўскай) думкі, настаўнік. Нарадзіўся 22 мая 1899 г. у Азяранах-Малых, непадалёк Крынак. Бацькі, Антон і Анастасія (з Шарамэтаў) апрача апрацоўкі зямлі займаліся гандлем у мястэчку Галынка. Яшчэ да бежанства пераехалі ў Мінск і там адкрылі сваю краму.

Мікалай Чарнецкі закончыў пачатковую школу ў Галынцы і ў 1914 г. паступіў у Настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы. Навуку прадаўжаў у горадзе Медыні Калужскай губерні, куды ў час бежанства эвакуіравалася Свіслачская семінарыя. Пасля заканчэння сярэдняй школы вярнуўся ў Азяраны-Малыя (бацькі, трох братоў і сястра пасяліліся ў Мінску), дзе пражываў брат бацькі, Андрэй Чарнецкі з сям'ёй. У 1919-21 гг. займаўся збіраннем фальклору і супрацоўнічаў з беларускай прэсай. Затым, па рэкамендацыі беларускіх улад атрымаў стыпендыю ад чэшскага ўрада на навуку ў вышэйшай навучальнай установе. У 1924 г. быў прыняты на аддзяленне філасофіі Карлавага універсітэта ў Празе. Там уключаецца ў дзейнасць Аб'яднання беларускага паступовага студэнцтва. Даследчыкі называюць Мікалая Чарнецкага вялікім сябрам і апекуном паэта Уладзіміра Жылкі.

У 1926 г. разам з Сяргеем Буслом і Тамашом Грыбом удзельнічае ў заснавальніцкім з'ездзе Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый, год пазней выбіраюць яго ў члены Ганаровага суда гэтай арганізацыі. У 1929 годзе заканчвае навуку ва універсітэце са званнем доктара філасофіі, ды нелегальна перасякае польскую мяжу і пасяляецца ў Азяранах-Малых. На бацькаўшчыне вядзе асветна-культурную дзейнасць сярод моладзі. У 1930/31 працуе настаўнікам беларускай мовы ў Клецку.

З 1933 года супрацоўнічае з рэдакцыяй „Золаку”, часопісам маладой беларускай сацыялістычнай думкі. У Вільні падтрымоўвае блізкія кантакты з супрацоўнікамі „Золаку” — Яўгенам Аніськам (галоўным рэдактарам), Антонам Шукялойцем, Анатолем Бярозкам (Мітрафан Смаршчок), Аляксандрам Баранавічам, Хведарам Ільяшэвічам, Мікалаем Шылам.

Быў членам Беларускага навуковага таварыства.

У 1939 г. вяртаецца на радзіму і год працуе дырэктарам Няпоўнай сярэдняй школы ў Крынках, затым куратарам асветы Крынкаўскага раёна.

1941 падаецца ў Беласток, там наладжвае сувязі з Хведарам Ільяшэвічам і Уладзімірам Тамашчыкам, галоўнымі арганізатарамі беларускага грамадска-палітычнага жыцця ў Беластоку пры нямецкай акупацыі. У 1943 годзе выбраны сакратаром Беларускага аб'яднання.

Загінуў пакутніцкай смерцю 19 студзеня 1944 года, на сорак пятым годзе жыцця ў Галоўках, што непадалёк Беластока, з рук польскага падполля.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Выдатнікі з Кнарыд

У Пачатковай школе ў Кнарыдах сустракаю многіх чытачоў „Зоркі". Дырэктар **Ежы Жменька** таксама цікавіцца нашай старонкай. Яго дачка Мажэна (вучаніца VIII „е" кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім) — карэспандэнтка „Зоркі".

— Школа ў Кнарыдах вылучаецца поспехамі ў спорце. Гэта традыцыя, — кажа Е. Жменька. — У настольным тэнісе, на той прыклад, вучні заваявалі выдатныя месцы ў маштабе Падляшскага ваяводства — хлопцы трэцяе месца, дзяўчаты — чацвёртае.

Спартсмены з Кнарыд вядомыя як пераможцы па лёгкай атлетыцы ў Бельскай гміне. Нядаўна, у чатырохборстве, дзяўчаты заваявалі першае месца, а хлопцы другое. Заняткі па фізкультуры тут толькі ў рамках прадмета, тры гадзіны ў тыдзень. Вядуць іх **Анна Кардзюкевіч** і **Сцяпан Стральчук**.

— Добра, што многа гаворыцца пра поспехі беларускіх ліцэістаў, — кажа **Надзея Аўярчук**, настаўніца беларускай мовы. — Інфармацыя пра „Агульнапольскі рэйтынг ліцэяў '99", дзе бельскі белліцэй заняў сёмае месца ў краіне і першае ў ваяводстве, прычынілася да пашырэння беларускай мовы ў Кнарыдах. На ўрокі запісаліся найлепшыя вучні восьмага класа, каб далей паступіць у згаданы ліцэй. Такім чынам 75 працэнтаў школьнікаў ходзіць на ўрокі беларускай мовы, у тым ліку нямала палякаў. Зараз у школе 65 навучэнцаў. Апрача мясцовых вучацца тут дзеці з Раек, Казлоў, Дубяжына, Мокрага і Пілік.


Ежы Жменька, дырэктар ПШ у Кнарыдах.


Навучэнцы беларускай мовы з настаўніцай Надзеяй Аўярчук.

Разам з пачаткам новага навучальнага года 12 асоб паступіць у гімназію ў Аўгустове.

У час маёй пабыўкі ў Кнарыдах атрымалася сімпатычная сустрэча з навучэнцамі беларускай мовы. Дзяўчаты з восьмага і шостага класаў прадставілі тэатральную сцэнку „Несцерка". Віялета Цар, Малгажата Базылюк, Кася Камінская, Нэля Сэбятынюк і Эля Аляксяюк вельмі старанна развучылі свае ролі. Раней яны паказалі „Несцерку" на школьнай ёлцы. Дарку Екацерынчыку шанцуе ў конкурсах крыжаванак „Зоркі". Ён адзін з сёмага класа ходзіць на беларускую мову.

— Падабаюцца мне ўрокі, — кажа Дарак, — асабліва творы Янкі Купалы.

Кася Ярашэвіч з VI класа прымала ўдзел у III Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Яе вершы надрукаваны ў зборніку „Зноў чуеш словы". І сёлета Кася прыступіць да конкурсу. Допісы дзяўчынкі друкаваліся таксама на старонках „Зоркі". У VI класе найбольш энтузіястаў беларускай мовы.

— Далей, у гімназіі будзем таксама вучыцца роднай мове, — кажуць шасцікласнікі.

Некаторыя з іх з другога класа, яшчэ з дубяжынскай школы (якую далучылі да Кнарыд) ходзяць на ўрокі.

Сімпатычныя вучні з VI класа — Уля Аляксяюк, Моніка Раманюк, Мар'юш Ярашэвіч і Стась Раца — выдатнікі. Дзеткі ўспамінаюць свой здымак змешчаны на нашых старонках. На сустрэчу прыйшлі таксама наймалодшыя. Кася Лукашэвіч з III класа, Аня Аляксяюк і Паўліна Пячынская толькі пачынаюць знаёміцца з беларускай мовай. Падабаецца ім, што ў Кнарыдах на ўроках беларускай мовы сустракаюцца найлепшыя вучні.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*


Кася Ярашэвіч.

**Віктар Швед**

## Кажы праўду

Татулька павучае:
— Мой дарагі сыночак,
Праўда заўжды святая,
Кажы яе ў вочы.

— Праўду казаць баюся, —
Азваўся малы Коля, —
Пачуў я ад мамусі,
Што праўда ў вочы коле.

## Здымай акуляры

Бабулю пытае
Унучка Тамара:
— Чаму, дарагая,
Носіш акуляры?

— Акуляры тыя
Пабольшваюць рэчы.
— Ты здымай тады іх,
Як кроіш торт з печы.

* * *

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,
Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.
Навакол усё паветра
Ў струнах сонца залатых, —
Ён дрыжачымі крыламі
Звоніць ледзве чутна ў іх.

І ліецца хваляй песня, —
Ціхі, ясны гімн вясне.
Ці не сэрца напявае,
Навявае яго мне?
Не паняць таго ніколі,
Не разведаць, не спазнаць:
Не даюць мне думаць зыкі,
Што ляцяць, дрыжаць, звіняць.

**Максім Багдановіч**

А павяданне „Красавік” вельмі цікавае і прыгожае. Аўтарка напісала пра Красавік, які прыйшоў першы раз на зямлю. Не спадабалася яму тады зямля, бо была ўся шэрая і чорная. Ён рашыў перамаляваць яе. Найперш пайшоў у неба і пamаляваў яго на сіні колер. Потым пamаляваў аблокі на белы колер. Затым пайшоў на луг і пamаляваў яго зялёнымі, блакітнымі, ружовымі і белымі краскамі. Далей завітаў на поле і размаляваў яго жоўтымі, зялёнымі і шэрымі фарбамі. На канец зайшоў у лес і пафарбаваў яго на чырвоны, шэры, чорны, жоўты, карычневы і сярэбраны колеры. Потым...

Заахвочваю вас усіх прачытаць гэты тэкст.

**Марта Федарук, кл. III „д”**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

Калі Красавік закончыў іграць, пачаў спяваць. Глянуў у неба і ўбачыў жаваранка. Жаваранку так спадабалася музыка Красавіка, што прапанаваў яму супольна напісаць песню. Сеў ён на бярозу. Дрэва шумела, жаваранак спяваў, а Красавік іграў на дудцы. І так ім гэта ўсё выходзіла, што і сонца выглянула з-за хмары, выраслі падснежнікі і коцікі на вярбе ды пупышкі на дрэвах, прыляцелі птушкі з выраю. Калі яны закончылі музіцываць, жаваранак паляцеў у неба, зірнуў і ўбачыў бусла.

— Бусел! — зазвінела птушка.

— Кле, кле, кле, — загаманіў бусел.

— Апусціся да нас, — сказаў жаўрук.

І бусел праз хвіліну стаяў на траўцы. Красавік усміхнуўся і расказаў як яны спявалі і дадаў:

— Можа і ты, Клёка-клёкала, будзеш разам з намі спяваць?

Бусел згадзіўся. Калі скончылі, бусел убачыў маладую дзяўчыну.

— Хто гэта?

— Вясна.

Вясна несла новыя каляровыя фарбы і пэндзаль. Красавік сказаў:

— Мы з маімі сябрамі і з бярозаю ігралі і спявалі. І так прыгожа нам гэта ўсё атрымоўвалася, што ты, Вясна, можаш пад нашу песню танцаваць. Ну і пагадзілася Вясна. Яна радасна танцавала, танцавала, што аж і ўпала. На гульню Вясны з птушкамі сонейка з неба глядзела. І яму спадабаліся птушыныя песні ды прапанавала спісаць ноты. Красавік сказаў:

— Маю фарбы, але паперы ў мяне няма.

Засумавалі. Вясна захіхікала і сказала:

— А бяроза мае белую кару, ну дык можна на ёй спісаць ноты.

Яна выняла фарбы і намалявала ноты. Потым паляцелі, кожны ў сваю старонку.

Калі пойдзеце ў лес, разгляньцеся, можа, убачыце бярозку з каляровымі нотамі.

**Магда Пахвіцэвіч, кл. III „д”**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**



Мал. Ані НЕЛІПІНСКАЙ, III „д” кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

## *Загадкі*

З-пад снегу выйшла,
Расцвіла, і так,
Што аж зіма ўцякла.
*(Пралеска)*

Стракаты, крылаты —
Руплівец лясны,
Лекар зяўзяты
У хворай сасны.
*(Дзяцел)*

**Васіль Жуковіч**

## *Паламаныя сэрцы*

У сумным лесе жывуць
паламаныя сэрцы.
Слёзы і кроў плывуць
як быстры ручай.
Ніхто не суцешыць іх, не палюбіць.
Ніхто не хоча іх злучыць.
Каб хтось калісьці прыйшоў
і тыя раны ўсе вылечыў!
Каб тыя сэрцы самотных людзей
Сшыць ніццю радасці, ніццю кахання...
Такія мары маюць яны,
Чакаюць другіх сваіх палавін,
Каб злучыцца назаўсёды.

**Сільвія Ракіцкая,**
**кл. VII „а” ПШ у Нарве**

# *Любчыны прыгоды*

***(амаль дзённік)***

**Хто ў летнім садзе жыве (3)**

Вырасла яна цяпер — чацвёрты гадок пайшоў, — дык яна татку праходу не дае:

— Татка, а чаму гэта вось так, а тое — гэтак?

Татка тлумачыць і, па дарозе ідучы, пра ўсё расказвае.

— Вось тут, — кажа, — Аляксандр Сяргеевіч Пушкін жыў. Вершы прыдумляў. Во ў гэтым доме. Бачыш, вуньдзека дошка гранітная на сцяне прымацаваная? А на ёй — літаркі залацістыя? Гэта і быў яго дом. А вунь у тым, каторы з балконам, — там жыў Кутузаў, які пакалаціў французаў. Проста адсюль на вайну паехаў. Таму вуліца наша так і завецца — Набярэжная Кутузава. Ну, а ты, Любачка, у якім доме жывеш?

— А вунь у тым, дзе ў варотах гарматы ля вуглоў укапаныя.

— А нашто іх паўкопвалі?

— А каб калёсы за вугал не чапляліся, калі хто ў двор заязджае.

— Ну і малайчына ты! — хваліць татка Любачку. — Усё ведаеш!

А Любка носік кірпаценькі ўгору — як не паганарыцца?! — татка маніць не будзе!

А то ішлі аднойчы паўз Летні сад, і татка штосьць пра агароджу Фельтэнаўскую расказваць пачаў: пра слупы гранітныя тлумачыць, ды пра тое, як з жалеза агароджу гэту кавалі ды Летні сад упрыгожвалі, а Любка зірнула ўгору ды бачыць — шыльдачка мармуровая на гэтай агароджы (а там пазначана, што якраз тут Каракозаў у цара страляў) і... не то пытаецца, не то даводзіць татку:

— А во тут напісана, што ў Летнім садзе... ну, во гэтыя... ну, тыя жывуць... ну, каторыя... — і знайшлася раптам: —... што з босымі пальцамі, гэтак?

— Скульптуры? — падказвае татка, а сам ледзь усмешку хавае: як хітра дачушка слова цяжкое абмінула, бо не запомніць было адразу.

— Ага! Скульптуры! — і пахвалы чарговай чакае.

— Не, Любачка, — засмуціў яе татка, — тут пра другое напісана. Але ты правільна падумала: хай бы лепей пра гэта напісалі. Мы і так даўно без цара жывём...

— Без таго, каторы дамок той пабудаваў? Без Пётры?

— Без яго, Любачка! Без яго! — пагадзіўся татка: падрасце дачушка — і сама зразумее, што такое без цара ў галаве жыць.

*(працяг будзе)*

**Анатоль Кірвель**

# Польска-беларуская крыжаванка № 21

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Czapka | ▼ | Ładunek | Łapa | Mgła ▶ / Jawor | ▼ | | | ▼ | |
| Przegląd ▶ | | ▼ | ▼ | ▼ | | Idol / π ▼ | Łasica / Ind ▼ | | 📖 |
| Grama-tyka ▶ | | | | | | | | | Ar ▼ |
| Noc Kupały ▶ / Bazar | | | | | | | | | |
| ▶ | | | | | Podarunek | | ▶ | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 17:** Кій, ікра, валун, гібель, мат, тон, піск, тканка. Ліміт, Лі, баск, кветка, Урал, альт, ода, банан.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Іаанна Стоцкая** з Нарвы, **Цаліна Глагоўская** з Гданьска, **Паўліна Савіцкая** з Гарадка, **Эва Конюх** і **Юліта Іванюк** з Бельска-Падляшскага. **Віншуем!**

# Найлепшыя ў Падляшскім ваяводстве



*Пераможцы алімпіяд беларускай мовы (злева: Эва Аўсяйчук, Тамаш Сахарчук, Анэта Шумялюк і Іаанна Федарчук).*

II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім заняў сёмае месца ў „Агульнапольскім рэйтынгу ліцэяў '99", які праводзіў часопіс „Перспектывы" і стаў найлепшым ліцэем у Падляшскім ваяводстве.

У Бельскім ліцэі заканчэнне навучальнага года для выпускнікоў адбываецца ўрачыста. 30 красавіка г.г. у спартыўнай зале белліцэя з абітурыентамі сустрэліся настаўнікі і малодшыя сябры. Былі ўспаміны ад чатырохгадовай вучобы і пажаданні поспехаў у час экзаменаў на атэстат сталасці. Дырэктар Зінаіда Навіцкая паінфармавала аб выніках працы школы за апошні год, пералічваючы поспехі вучняў у паасобных прадметных алімпіядах і конкурсах.

Найбольш вучняў перайшло да цэнтральнага этапу ў алімпіядзе беларускай мовы, сярод якіх лаўрэатамі сталі Іаанна Сноп, Анэта Гуль, Анэта Шумялюк, а фіналістамі Іаанна Федарчук, Эва Аўсяйчук, Іаанна Кулачэўская, Анна Фіёнік, Катажына Суліма, Гражына Грыцук і Анэта Алексяюк. У Алімпіядзе рускай мовы званне фіналісткаў прысвоена было Анне Ткачук і Галене Шаховіч, а званне ўдзельніка цэнтральнага этапу — Мар'і Пятроўскай. Войцех Янкоўскі і Адрыян Флярко сталі фіналістамі біялагічнай алімпіяды. Тамаш Сахарчук стаў лаўрэатам і заняў першае месца, а Павел Саковіч быў удзельнікам цэнтральных элімінацый „Конкурсу ведаў аб НАТО". Анна Хадакоўская заняла II месца, а „Дзявочыяноткі" III месца ў фестывалі „Беларуская песня", Люцына Данілюк і Эва Аўсяйчук былі вылучаны ў Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Да цэнтральных элімінацый конкурсу „Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека" дайшлі Паўліна Шафран і Павел Саковіч. (Аб выніках дэкламатарскага конкурсу „Сцэнічнае слова" пісалі ў апошнім нумары).

— У мінулым годзе рэзультаты ўдзелу вучняў у алімпіядах не былі горшымі, пра што сведчыць рэйтынг часопіса „Перспектывы" (н-р 3 за 1999 год — А. М.), — сказала пасля сустрэчы дырэктар Зінаіда Навіцкая.

У „Агульнапольскім рэйтынгу ліцэяў '99" (вынікі за мінулы навучальны год) Бельскі белліцэй заняў сёмае месца. Апярэдзілі яго толькі школы з вялікіх гарадоў: Вроцлава, Кракава, Лодзі, Варшавы і Быдгашчы. Стаў ён найлепшым ліцэем не толькі ў былым Беластоцкім ваяводстве, але і ў цяперашнім Падляшскім. Поспеху пасадзейнічалі чатыры лаўрэаты і адзінаццаць фіналістаў.

— Многія вучні ўжо паступаючы ў наш ліцэй намерваюцца прымаць удзел у алімпіядах і пачынаюць рыхтавацца ад першага класа, — падкрэсліла дырэктар. — Каб дабіцца поспехаў апрача здольнасці вучняў патрэбны вельмі цяжкая праца, вопыт і падыход настаўнікаў. Варта звярнуць увагу на некаторых педагогаў, якіх вучні амаль штогод дабіваюцца поспехаў у прадметных алімпіядах і конкурсах: настаўніц беларускай мовы — Зінаіду Дземянюк, Анну Бжазоўскую і Яўгенію Таранту, рускай мовы — Яўгенію Апалінскую, біялогіі Ніну Суліму, геаграфіі — Яўгенію Крук, хіміі — Веру Сідэвіч ці вельмі актыўнага настаўніка гісторыі Уладзіміра Вавульскага.

— Вучні вельмі ахвотна прымаюць удзел у Алімпіядзе беларускай мовы, бо гарантуе яна вялікія прывілеі для пераможцаў. Яны звольнены з экзаменаў па беларускай мове на атэстат сталасці, а найлепшыя ідуць без экзаменаў у розныя напрамкі вышэйшых устаноў, — кажа настаўніца Анна Бжазоўская. — Мае вучні пачынаюць рыхтавацца ўжо з кастрычніка, распрацоўваюць даклады, пішуць дыктоўкі, вядуць дыскусіі.

— Біялогія — гэта такі прадмет, дзе вельмі многа ведаў і рыхтавацца да алімпіяды трэба ўжо ад першага класа. Спатыкаемся з вучнямі таксама і ў час зімовых і летніх канікулаў. Каб даследаваць прыроду нельга працаваць толькі ў школе, але трэба ездзіць таксама за горад, у лес, — расказвала настаўніца біялогіі Ніна Суліма, якая ад 20 гадоў працуе ў белліцэі і за гэты перыяд 8 яе вучняў сталі лаўрэатамі, 17 фіналістамі, а 2 было ўдзельнікамі міжнародных алімпіяд на біялогіі. — Першым пераможцам была мая дачка Іаланта, якая пасля заняла першае месца ў Польшчы.

— Я ўжо трэці год рыхтуюся і толькі зараз змог стаць фіналістам цэнтральных элімінацый, — сказаў пераможац па біялогіі, выпускнік Войцей Янкоўскі, якому не хапіла 2 балы, каб стаць лаўрэатам. — А рэцэпт на поспех — вельмі многа працы, доследаў, тэстаў, а таксама дапамога і вопыт настаўніка.

Тамаш Сахарчук з'яўляецца сёлетнім выпускніком, які штогод дабіваўся поспехаў у прадметных алімпіядах і конкурсах. У першым класе быў фіналістам Алімпіяды ведаў аб Польшчы і сучасным свеце, у другім стаў лаўрэатам Адімпіяды беларускай мовы, у трэцім атрымаў званне фіналіста Алімпіяды ведаў аб правах чалавека і лаўрэатам Алімпіяды ведаў аб Польшчы і сучасным свеце, а сёлета заняў першае месца ў Польшчы ў конкурсе ведаў аб НАТО.

— Найбольш задаволены я, што стаў лаўрэатам Алімпіяды аб Польшчы і сучасным свеце, бо адкрыла яна мне дарогу ў студэнты. Без экзаменаў буду я прыняты на факультэт Міжнародных зносін Варшаўскага універсітэта. Важнай лічу таксама Алімпіяду беларускай мовы, бо буду звольнены з экзаменаў на атэстат сталасці па беларускай мове, — ацэньваў сваю працу Тамаш Сахарчук. — Каб былі поспехі, кожны год трэба было многа працаваць. На сёлетні конкурс ведаў аб НАТО рашыўся, маючы на ўвазе мінулагодніе веды ад алімпіяд і дапамогу майго настаўніка Уладзіміра Вавульскага, а тут якраз і вайна ўспыхнула.

Выпускнікам белліцэяў жадаем поспехаў у час матуральных экзаменаў, а іх маладым сябрам перамогі ў будучых прадметных алімпіядах і конкурсах.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# У школе ў Саках

У падставовай школе ў Саках тэатральнай групай апякуецца настаўніца малодшых класаў Валянціна Дмітрук. Я імі займаюся, як толькі я пачала працаваць, адразу, сказала мне настаўніца. А працуе яна ўжо 21 год і ўвесь час у Саках. Там нарадзілася і там жыве. Закончыла Гайнаўскі беларускі ліцэй і Вышэйшую педагагічную школу ў Ольштыне на аддзяленні бібліятэказнаўства і навуковай інфармацыі. Навучае ў класах 1-2.

Але не толькі я падрыхтоўваю дзяцей да выступленняў, робіць агаворку Валянціна Дмітрук. Іншыя настаўнікі — таксама. Напрыклад, першы раз на беларускай мове падрыхтавала дзяцей настаўніца фізікі і матэматыкі Аліцыя Барана. Было гэта пару гадоў таму, калі ў Гайнаўцы адбываўся конкурс дзіцячых тэатральных калектываў. Былі таксама конкурсы добрай работы.

З дзецьмі са школы ў Саках давялося мне сустрэцца ў Кляшчэлях, калі выступілі яны ў канцэрце на ўрачыстым святкаванні 30-годдзя мастацкага калектыву з Дабрывады і 20-годдзя калектыву „Каліна" з Дашоў.

Выступалі вучні, як сапраўдныя акцёры. Прадставілі сцэнку „Ехаў дзедка на кірмаш". Гэта былі сатырычныя творы па матывах твораў Кандрата Крапівы. Менавіта з гэтай сцэнкай выступілі сёлета вучні школы з Сакоў на цэнтральным аглядзе дзіцячых беларускіх драматычных калектываў і заваявалі „гран-пры".

Мне давялося гутарыць з адной з „актрыс" — Эвай Баршчэўскай. Яна вучыцца ў VI класе ў Саках, а жыве ў Залешанах. Ужо будучы ў прадшколлі, Эва прымала ўдзел у тэатральных пастаноўках. Мы ездзілі, кажа яна, на конкурсы ў Кляшчэлі і Гайнаўку, а нават і ў Беласток, напрыклад, на конкурс „O złotą różdżkę dobrej wróżki".

Шасцікласніца Эва расказвае мне пра сваіх сяброў, разам з якімі яна выступіла ў апошняй пастаноўцы. Во гэта Пётр Бобік, ён з Тапаркоў, а вучыцца ў 8 класе. А Андрэй Гаўрылюк жыве ў Саках, ён таксама ў 8 класе. Бэата Зубік вучыцца ў 6 класе, а жыве ў Саках на хутары. У Саках жыве і Войтак Скаржынскі, ён католік, дадае дзяўчына. Яна так гаворыць і ў яе дзіцячым уяўленні Войтак прадстае як паляк. Але дзеці абступілі нас і ўсе аднолькава добра гавораць па-беларуску. Вучні пачатковай школы карыстаюцца найчысцейшай беларускай літаратурнай мовай. Я бачу, што Эва зусім не саромеецца гаварыць не па-польску і крыху інакш, чым гавораць у яе вёсцы. Стаpанна падбірае беларускія словы, каб не рабіць памылак. Яны яшчэ малыя, яшчэ беларусы, сказаў бы знаёмы хлапчук Ігар. Не з кожным вучнем так званых



*Выступаюць школьнікі з Сакоў.*

беларускіх ліцэяў так лёгка па-беларуску дагаворышся, а нават некаторыя глядзяць на цябе з лёгкім здзіўленнем, калі пачынаеш з ім гаварыць па-свойму: чаго, мауляў, яна хоча.

Настаўніца Валянціна Дмітрук паставіла з вучнямі першае беларускае прадстаўленне. Пытаюся, ці лёгка было падабраць дзяцей для пастаноўкі. Што вы, усклікае настаўніца. У нас жа класы 1-2 спалучаныя, я гэтых дзяцей добра ведаю ды маю, з каго выбіраць. З гэтымі дзецьмі я ўжо працую 6-8 гадоў. Напрыклад, у Эвы ад пачатку можна было заўважыць талент, а Пятрусь шмат папрацаваў, каб поўнасцю выявіць свае ўмеласці.

Дзеці сваім поўным гумару прадстаўленнем выклікалі ў зале шмат смеху і шчырага захаплення.

Выступаць па-беларуску не было для іх праблемай? — пытаю. Не! У школе ў Саках амаль усе дзеці вывучаюць беларускую мову. У малодшых класах навучае ёй Яўгенія Васілюк, а ў старэйшых — Мікалай Гапанюк. Так што можна смела сказаць, што цэлая школа хацела б выступаць, сцвярджае Валянціна Дмітрук.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

## Цікавая выстаўка

У Гарадской публічнай бібліятэцы імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы па вул. 3 Мая 45 адкрылі выстаўку малюнкаў Пятра Гагана з Гайнаўкі. Экспазіцыю можна аглядаць кожны дзень (апрача нядзеляў) ад 10 да 18 гадзіны.

**(гай)**

## Запрашэнне

Кафедра беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку запрашае на сустрэчу з прафесарам Гжэгажам Янушам — аўтарам законапраекта аб нацыянальных меншасцях. Падчас спаткання, якое адбудзецца 27 мая г.г. (чацвер) а гадз. $15^{30}$ у зале н-р 36 будынка Універсітэта па вул. Лінэрскага 4, будзе зачытаны даклад „Польскі закон аб нацыянальных меншасцях у святле еўрапейскіх стандартаў".

# Прызванне было ўва мне з дзяцінства

**Пра свой жыццёвы шлях расказвае настаяцель Арлянскага прыхода айцец мітрат Аляксандр ТАКАРЭЎСКІ.**



*Карані*

Нарадзіўся я 28 красавіка 1929 г. у Корніцы Люблінскага ваяводства, 6 кіламетраў ад Лясной-Падляшскай. Мае бацькі, Рыгор і Аляксандра, працавалі на гаспадарцы. Корніца — гэта доўгая васьмікіламетровая вёска, вядомая з залежаў крэйды. Да II сусветнай вайны было там толькі пяць праваслаўных сем'яў, астатнія — каталікі. Веравызнанне не перашкаджала нам жыць згодна, дапамагаць адзін аднаму ў няшчасці. Праваслаўныя з Корніцы належалі да прыхода ў Носаве. Там да вайны было асабліва многа праваслаўных.

*Юнацтва*

Хлапчуком ездзіў я ў носаўскую царкву на багаслужбы. Улетку хадзілі мы з мамай пешшу. Памятаю, што пасля вяртання з царквы быў я моцна стомлены і мачыў ногі ў халоднай вадзе. Найбольш мне запомніліся ўсяночныя каляндныя і асабліва велікодныя багаслужбы. Электрычнасці на правінцыі тады яшчэ не было, але вакол носаўскай царквы гарэлі прыгожыя, разнаколерныя лампадкі, развешаныя паміж дрэвамі. Мураваная царква заўсёды была напоўненая вернікамі. Магіла Хрыстовая пасярэдзіне царквы танула ў агні свечак. Пасля вяртання з уясночнай я ўсё пабачанае і пачутае перажываў яшчэ раз, наследаваў свяшчэнніка, а ікона ў святым кутку была мне алтаром. Усё гэтае я рабіў так, каб ніхто не бачыў.

*Прызванне*

Святарскае прызванне, відаць, было ўва мне з дзяцінства. Вялікае значэнне таксама мела і тое, што ў нашай сям'і некалькі асоб здаўна працавалі на карысць Царквы. Мой дзед Пётр Такарэўскі быў псаломшчыкам у Корніцы. Дзядзька быў святаром у Бельску-Падляшскім і даўжэйшы час выконваў абавязкі благачыннага. Мой лёс так склаўся, што пасля смерці бацькі, з 1942 г. жыў я ў свайго дзядзькі, які быў тады святаром у Мілейчычах. Я яму вельмі ўдзячны, бо ставіўся ён да мяне як да роднага сына. Быў ён для мяне аўтарытэтнай асобай. Любіў я гутарыць з ім на розныя тэмы, спадарожнічаць яму ў падарожжах, прагулках. Сістэматычна наведваў я царкву, прымаў удзел у багаслужбах: чытаў, спяваў, прыслужваў. „Часалоў" ужо тады ведаў я на памяць. Усё гэта мела вялікі ўплыў на маё святарскае прызванне.

*Адукацыя*

Нарадзіўся я ў неадпаведны для навукі час. Пры нямецкай акупацыі не было школы. Вучыліся мы патаемна ў прыхадскім доме ў Мілейчычах. Вывучалі мы асноўныя прадметы пад кірункам вопытных настаўнікаў. Гэтая навука прыдалася мне, калі пасля вайны здаваў экзамены ў гімназію. Чатыры класы гімназіі і два класы ліцэя закончыў я ў Сямятычах. У 1950 г. атрымаў атэстат сталасці. Падчас навукі ў Сямятычах выконваў я яшчэ абавязкі псаломшчыка ў Сасінах. Курс Духоўнай семінарыі здаў экстэрнам. Пасля шлюбу з матушкай Варварай быў я рукапаложаны ў дыяканы, а затым у прэсвітэры.

*Душпастырская паслуга*

Першым маім прыходам быў Тарэспаль над Бугам. Было ў ім пад два дзесяткі сем'яў, якія зберагліся ад акцыі „Вісла". Прыхаджане былі цудоўнымі людзьмі, глыбокаверуючымі, аддадзенымі праваслаўю. Пасля двух гадоў атрымаў я пасаду вікарнага святара пры царкве Прасвятой Дзевы Марыі ў Бельску-Падляшскім і настаўніка Божага закону. Паралельна, на працягу дзесяці гадоў, нёс я душпастырскую паслугу жыхарам Ягуштова. Цёпла ўспамінаю гэты перыяд. У цяжкі для царкоўнага жыцця час пабудаваў я ў Ягуштове плябанію і гаспадарчы будынак — усё на сваё прозвішча, бо прыхода тады ў Ягуштове яшчэ не было. Падрыхтаваў я частку будаўнічых матэрыялаў на рамонт царквы, але ў 1962 г. перавялі мяне на пасаду настаяцеля Арлянскага прыхода. Быў я тады 33-гадовым святаром, якому бракавала паўтара года да заканчэння багаслоўскага факультэта Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі.

*На прыходзе ў Орлі*

Служу я ў Орлі ўжо 37 гадоў. З матушкай Варварай правялі мы тут большую частку свайго жыцця. Тут выхавалі мы сваіх дзяцей. Сын Георгій пайшоў па маіх слядах і цяпер узначальвае Бельскае благачынне, дачка Яўгенія працуе лекарам. Як настаяцель зрабіў я тут нямала. У складаны для Царквы час правёў я капітальны рамонт храма, упарадкаваў могільнікі і капліцу св.св. Кірыла і Мяфодзія, пабудаваў новую капліцу св. Сімяона Стоўпніка і катэхетычны пункт пры плябаніі, адрамантаваў астатнія прыхадскія будынкі. Вышэйпералічанае гэта не толькі мая заслуга, але таксама мясцовых прыхаджан і членаў прыхадской рады. Дзякуючы ахвярнасці вернікаў прыхадскі храм св. Міхаіла Архістраціга быў даведзены да належнага парадку, былі пазалочаны іканастас і ўсе кіёты.

*Прыхаджане*

Ведаю ўсіх прыхаджан па імені, ведаю іх радасці і смуткі. Стараюся быць для сваіх вернікаў духоўным айцом, які ў момантах жыццёвых няўдач падтрымоўвае іх на духу і цешыцца іхнімі дасягненнямі як сваімі.

*Планы*

Нягледзячы на мае 70 гадоў планую яшчэ зрабіць многае. У гэтым годзе пачынаем будаваць прыхадскі дом і гаспадарчы будынак. Мару, каб добраўпарадкаваць усю прыцаркоўную тэрыторыю ды пабудаваць яшчэ адну плябанію і дом для псаломшчыка. Ці ўдасца мне гэтае зрабіць, адзін Бог толькі ведае.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**

<u>Беластачане спяшаюць з дапамогай</u>

# Прыпяць разлілася...

Сэрца праваслаўнага чалавека чуллівае. Як толькі ў Праваслаўным брацтве святога Мікалая даведаліся, што людзям на Беларусі патрэбна неадкладная дапамога, яны пачалі рыхтаваць дары. Консул Мікалай Крэчка так і сказаў: „Прыпяць разлілася... Ёсць пацярпеўшыя ад паводкі".

З Ірэнай Трашчоткай з Праваслаўнага брацтва святога Мікалая мы гутарылі 11 мая, а 17 мая ўжо яна выбіралася ўдваіх з шафёрам 28-тоннага „TIRa" везці дапамогу братам на Беларусі. Гэты „TIR" таксама даў бясплатна адзін праваслаўны чалавек, які прасіў не падаваць яго прозвішча. Не раблю я гэта для рэкламы, сказаў ён.

У нас усё гэта адбываецца вельмі проста, сказала спадарыня Ірэна. Гаворым: дапаможам! — і пачынаем збіраць. Адны прыносяць нешта, іншыя ўпакоўваюць усё ў мяшкі, яшчэ нехта прымае тэлефоны і едзе, каб забраць сабраныя рэчы ў той-сёй хаце. Не кожнаму лёгка даставіць іх да нас, у брацтва на Ліповай, дзе мы робім найбольшыя зборы вопраткі і розных іншых рэчаў.

Усё тут робіцца ў грамадзе. Ірэна Трашчотка, якая кажа скромна, што яна тут, каб „przynieść, podać, pozamiatać", а ў сапраўднасці кіруе ўсімі харытатыўнымі акцыямі, называе мне найбольш актыўных людзей у брацтве: Барбара Сідарук, Васіль Хомік, Васіль Дамброўскі, Аляксандр Нікітаровіч, Аляксандр Бішчук, Мікалай Кулік, Марыя і Данат Макаль, Галіна Ляшчынская, Галіна Калеснік, Яраслаў Вердоні, Ян Грыгарук.

На 11 мая ўжо было сабрана больш 200 мяшкоў з дарамі толькі ў брацтве на Ліповай. Апрача таго, ужо сабрана на банкаўскім рахунку для пацярпеўшых ад паводкі на Беларусі 1 217 злотых. Гэтыя грошы ўплацілі індывідуальныя асобы. За іх закупляюцца ў гуртоўнях, каб было як мага танней, парашкі для мыцця бялізны, мыла, шампунь.

Нельга сказаць, што адно мы займаемся збіраннем дараў, падкрэслівае Ірэна Трашчотка. У Беластоку ёсць таксама такі пункт у БГКТ на Варшаўскай. Сусветная царкоўная рада выдзеліла 1 000 злотых на куплю спажывецкіх тавараў. Збірае таксама Гайнаўскае царкоўнае брацтва. Кажуць, што сабралі ўжо дараў на тры поўныя „Жукі" і 800 злотых грашыма на куплю ежы і гігіенічных сродкаў. У школе нумар 3 у Бельску-Падляшскім збіраннем дараў займаецца дырэктар Васіль Ляшчынскі. У Рыбалах, пры царкве — айцец Рыгор Сасна, у Кляшчэлях — айцец Мікалай Келбашэўскі, у Сямятычах — айцец Андрэй Якімюк з царквы Пятра і Паўла.

Спадарыня Ірэна Трашчотка 11 мая спадзявалася, што да 17 мая, да іх ад'езду, збярэцца дараў яшчэ больш. А пасля маршрут таго „TIRa" вёў бы праз Рыбалы, Бельск, Гайнаўку, Кляшчэлі, Сямятычы ў Чаромху, дзе адбываецца кантроль. Усюды там паставілі яны і мясцовыя дзеячы на моладзь, якая дапамагла б пагрузіць сабраныя дары. Таксама — і ў Беластоку.

А каб акцыя адбылася без перашкод, яшчэ і беларускі консул Мікола Крэчка перад самым ад'ездам „TIRa" а $9^{00}$ гадзіне абяцаў уручыць ім ліст ад мітрапаліта Філарэта — у якім ён піша, што на Беларусі пацярпеўшыя ад паводкі вельмі чакаюць гэтай дапамогі.

Таксама брацтва думае пра дапамогу братам-сербам. Людзі і ім хочуць дапамагчы. Званяць, пытаюць. 7 мая ў Беластоцкім амфітэатры адбыўся ў карысць сербаў харытатыўны канцэрт польскай спявачкі грэцкага паходжання Элені і бельскай „Маланкі" пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука.

Для зацікаўленых падаем рахункі, на якія можна ўплачваць грошы на Сербію і пацярпеўшых ад паводкі на Беларусі.

**На Сербію:**

Prawosławny Ośrodek Miłosierdzia „Eleos"
PBR I O/Białystok
N 11101154-222864-2700-1-69 „Serbia".

**На Беларусь:**

Bractwo Świętego Mikołaja
PKO BP II O/Białystok N 10201329-90463-270-1 „Pomoc dla powodzian".

Збіранне дараў прадаўжаецца! Шчырыя сэрцы, да дзела!

**Ада ЧАЧУГА**

# Верыў, што Беларусь не загіне

[5 ☞ працяг]

на тое, — што з дзяўчынай у кіно пайшоў? Вам лепш, каб у *тракцір* заходзіў, ці ў зладзейскую хеўру папаў.

— Мікалай Чарнецкі не быў камуністам, толькі сапраўдным нацыяналістам. Казаў, што трэба адарваць Беларусь ад Польшчы і Расіі, і зрабіць сваю дзяржаву, — кажа мой субяседнік. — Загінуў за тое, што гаварыў праўду ў вочы.

## Памёр як святы мучанік

— Пра смерць хроснага я даведалася ад Лёні Аніська, дваюраднай сястры доктара, — кажа Агрыпіна Буйко. — Быў пачатак 1944 года. Доктар спыніўся ў сваёй дваюраднай сястры, што жыла ў маёнтку Галоўкі непадалёк Юхноўца. Яна была ўдавой, яе мужа, польскага афіцэра, забралі саветы. Але наведвалі яе дом сябры мужа, афіцэры падполля. На праваслаўных Трох Каралёў доктар пасварыўся з імі за ўладу. Сказаў: свет скончыцца, а Беларусь усё адно будзе. І яны адпомсцілі. Ноччу ўварваліся ў маёнтак і забралі хроснага. Цела знайшлі ажно ў маі. Лёня Аніська расказвала, што ёй у сне паказалася месца, дзе ляжаў труп. Найшлі яго ў яме, накрытага яшчэ снегам. Усё цела было дашчэнту апаганенае. Злачынцы здзекаваліся, выкалупалі вочы, абрэзалі вушы ды яшчэ рукі калючым дротам звязалі. Ну і ногі яму адсеклі. Казалі, што нейкія пастушкі на боты палакоміліся.

Толькі ў 1997 годзе гісторык Веслаў Харужы (яго маці таксама з дому Чарнецкая і родам з Азяран-Малых) знайшоў магілу доктара Чарнецкага. Знаходзіцца яна непадалёк царквы на праваслаўных могілках у Беластоку, на Выгодзе. На надмагільнай табліцы віднее беларускамоўны напіс: „Няхай Табе будзе лёгкай Родная Зямелька".

Мае субяседнікі да 1997 г. не ведалі, дзе знаходзіцца магіла іх дзядзькі.

— Сёння раніцай я падумаў, што ён памёр як сапраўдны герой, — кажа Анатоль Чарнецкі. — Як мучанік за справу.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

PS. Аўтарка запісу выказвае вялікую падзяку гісторыку Веславу Харужаму за грунтоўную дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага тэксту.

Асвячэнне помніка на магіле Мікалая Чарнецкага адбудзецца ў сотую гадавіну з дня нараджэння беларускага героя, у нядзелю — 23 мая 1999 года а гадз. $11^{30}$. Урачыстасць папярэдзіць Святая Літургія з паніхідай у царкве Усіх Святых у Беластоку-Выгодзе, якая пачнецца ў 10 гадзін.

# Мая праўда аб вайне

Адгалоскі

У „Ніве" н-р 11 ад 14 сакавіка 1999 года прачытаў я кароткую рэцэнзію на кніжку Васіля Быкава „Сьцяна". У ёй пішацца, якімі мудрымі былі ў апошняй сусветнай вайне амерыканцы, якія страцілі толькі 300 тысяч чалавек; якімі ўмелымі ваякамі былі немцы, якія страцілі на франтах 7 разоў менш салдат, чым Чырвоная Армія. Аўтаматы нямецкія і вінтоўкі былі лепшыя ад савецкіх аўтаматаў і вінтовак сістэмы Мосіна, а нямецкія танкі „Тыгры" лепшыя ад савецкіх Т-34. І ўсё гэта пішацца аб арміі, якая ў заўзятай барацьбе перамагла самую магутную, вопытную армію свету — гітлераўскую, якая апіралася на рэсурсы і прамысловасць не толькі Нямеччыны, але і другіх краін. Да выказванняў постсавецкіх аўтараў трэба падыходзіць вельмі асцярожна, бо яны ў мінулым выхвалялі „дарагога" Ільіча, „бацьку народаў" І. Сталіна і савецкі строй, а цяпер клеймяць перад усім светам сябе, свае народы і іх дасягненні. Таму варта прыгадаць, што думаў пра Чырвоную Армію адзін з найбольш таленавітых нямецкіх генералаў Гайнц Гудэрыян. У кніжцы „Рэзультаты другой сусветнай вайны" ён напісаў: 1. „Савецкія салдаты паказалі сябе ў мінулай вайне стойкімі, храбрымі, умелымі і ініцыятыўнымі. Яны не падалі духам у час адступленняў і няўдач у першай фазе нямецка-савецкай вайны. (...) 2. Таксама савецкія афіцэры і генералы паказалі ў мінулай вайне высокія камандныя спасобнасці. Яны ўмелі вучыцца на няўдачах, не паўтаралі памылак, аналізавалі тактыку праціўніка і ўмела планіравалі ваенныя аперацыі". Гудэрыян — удзельнік вайны з Савецкім Саюзам у мемуарах успамінае, што ўжо восенню 1941 года найлепшыя нямецкія афіцэры палі духам. Гітлер і нямецкае камандаванне паўтарылі памылку Напалеона: паслалі Вермахт заваёўваць марозную Расію, не маючы зімняга абмундзіравання і лічачы, што СССР да зімы разваліцца. У рэзультаце страты нямецкіх войск ад марозу ў цяжкую зіму 1941/42 г. былі вельмі высокімі. Ужо тады нямецкія газеты не скрывалі, што Сталін увёў у зман нямецкі генштаб. Сталін прадбачыў непазбежную вайну з Нямеччынай і, рыхтуючыся да яе, патрабаваў ад Фінляндыі, каб яна адсунула граніцу на Карэльскім перашыйку (які да 1809 г. належаў Расіі) ад Ленінграда, ад якога было да граніцы толькі 32 км, прапануючы фінам аддаць раўнацэнную тэрыторыю каля Анежскага возера. І калі фіны на гэта не згадзіліся, Сталін 30 лістапада 1939 г. пачаў з імі вайну. У гэтай вайне (кончылася яна 12 сакавіка 1940 г.), па інструкцыі Сталіна, савецкае камандаванне прадэманстравала сваю „няўмеласць", „прастарэласць" зброі, каб не трывожыць ваюючых між сабою немцаў, французаў і англічан рэчаіснай магутнасцю Чырвонай Арміі: няхай гаспада капіталісты ваююць сабе на здароўе, а мы тым часам будзем умацоўвацца. Каб замаскаваць выкананне гэтага хітрага плана, Сталін зняў з паста наркома абароны маршала К. Варашылава, абвінаваціўшы яго быццам бы ў „недастатковай боеспасобнасці Чырвонай Арміі". Аднак, супроць свайго абычаю, не зрабіў яму ніякага зла і на яго месца паставіў камандарма Сямёна Цімашэнку. Немцы не раскусілі своечасова гэтай хітрасці.

Справа зброі таксама не выглядала зусім так, як напісаў В. Быкаў. Нямецкія аўтаматы „шмайсер" былі трошкі лепшыя за савецкія ППШ, але савецкія вінтоўкі і карабіны Мосіна, з мадэрнізаваным прыцэлам і намушнікам, не былі горшымі ад нямецкіх вінтовак і многа лепшыя ад англійскіх і французскіх. Я служыў у 49 арміі ІІ Беларускага фронту і браў удзел у прастрэльванні нямецкіх, англійскіх і французскіх вінтовак. Нельга параўноўваць савецкія сярэднія танкі Т-34 з нямецкімі цяжкімі танкамі „Тыгр", як нельга раўняць самалёт-бамбардзіроўшчык з самалётам-знішчальнікам. Савецкія сярэднія танкі Т-34 паявіліся на фронце восенню 1941 г. і многа бяды прычынілі нямецкай арміі і яе танкам Т-3 і Т-4. Нямецкія „Тыгры" паявіліся на фронце летам 1943 г. на Курскай дузе, калі ў савецкай арміі паявіўся ім праціўнік — танк „ІС". Трэба тут прыгадаць, што калі восенню 1942 г. у рамках матэрыяльнай дапамогі ў СССР былі прысланы амерыканскія танкі і дастаўлены на фронт пад Сталінград, то савецкія танкісты рашуча адказаліся карыстацца імі, таму што былі яны на бензін і пры пападанні снарада адразу ўспыхвалі факелам. Праўда, дзякуючы высокім тэхнічным навыкам, амерыканцы хутка асвоілі будову і боеспасобных танкаў. І як пасля выявілася найлепшыя танкі меў Савецкі Саюз, на другім месцы былі танкі нямецкія, на трэцім — амерыканскія, на чацвёртым — англійскія. Аб гэтым піша французскі генерал Бушэ ў навуковай працы „Танкі".

Неабходна аднесціся і да сцвярджэння, што дзяўчаты служылі ў тадышняй Чырвонай Арміі тэлефаністкамі і сакратаркамі, а на практыцы толькі ўпрыгожвалі жыццё старшым афіцэрам, хаця маглі быць і такія з'явы. У Чырвонай Арміі дзяўчаты служылі таксама рэгуліроўшчыцамі, зянітчыцамі, а нават лётчыцамі. Былі жаночыя авіяпалкі, у якіх не было ніводнага мужчыны. Дзяўчаты-лётчыцы лёталі на начных лёгкіх бамбардзіроўшчыках. Я сам многа разоў меў магчымасць наглядаць, як ноччу жаночыя палкі бамбілі ваенныя аб'екты ў Гданьску, ва ўзяцці якога ўдзельнічала наша 49 армія генерала-лейтэнанта І. Грышына. Медыцынскі персанал Чырвонай Арміі амаль у 90 працэнтах складалі жанчыны.

*(заканчэнне будзе)*

**Мікалай Капчук**

# Засталася традыцыя

У 18 нумары „Нівы" ад 2 мая 1999 года Мікола Ваўранюк у артыкуле „Голубы, марожанае і дубінкі" напісаў пра святкаванне 1 Мая ў яго школьныя і студэнцкія гады. Трэба адзначыць, што аўтар па мастацку намаляваў першамайскае шэсце ў гмінная Нарве і значнейшыя падзеі ў сталіцы ў 1986 годзе.

Аўтар піша: „У першыя пасляваенныя гады пашану для новай сацыялістычнай традыцыі спрабавалі ўвесці міліцыянеры, якія 1 мая зганялі з палёў і штрафавалі аратых". Такое ў маім наваколлі не здаралася. Праўда, гаворка ішла перад 1 мая пра такое, але таму толькі, каб пастрашыць людзей і прыклікаць іх на шэсце.

Напрыклад, у Кузаве многія 1 мая садзілі бульбу, а справіўшыся з працай у полі ўвечары ішлі на забаву.

Інакш справа выглядала на чыгуначных прадпрыемствах. Там начальнікі проста загадвалі, што кожны работнік, які не працаваў у гэты дзень, абавязкова павінен ставіцца на шэсце. Пра членаў партыі і прафсаюзных дзеячаў ужо не гаварылася. Для іх быў гэта абавязак! У Чаромсе на прадпрыемстве збіраліся на дзевятую гадзіну, затым калонамі кожная ўстанова праходзіла на месца зборышча г.зн. на плошчу побач клуба „Калеяж". А гадзіне дзесятай народ слухаў прамову І сакратара цэнтральнага камітэта партыі па радыё, затым выступаў мясцовы важак гэтай арганізацыі. Пасля сфарміравання калоны па назначаным маршруце пачыналася шэсце. Праходзіла яно ў нас вуліцамі 1 Мая, Ліповай, Фабрычнай (там знаходзілася трыбуна).

Пасля шэсця ўдзельнікі першамайскага мітынгу разыходзіліся. Разумеецца, што мужчынам была гэта самая лепшая нагода для выпіўкі. А пасля абеду пачыналіся спартыўныя спаборніцтвы і выступленні мастацкіх калектываў, якіх завяршэннем было народнае гулянне.

Хачу прытым адзначыць, што грамадства Чаромхі ў гэты час акуратна ставілася да свята працы і лічыла яго звычайным культурным фэстам, а не палітычным мітынгам. Гэтая традыцыя захавалася ў Чаромсе і па сённяшні дзень.

* * *

Каб падтрымаць традыцыю свята працы, мясцовы асяродак культуры арганізаваў у нядзелю 2 мая г.г. „маёўку" з даволі атракцыйнай праграмай. Аматары спорту мелі нагоду пабачыць выдатнікаў па футболе і настольным тэнісе. Адбыліся спаборніцтвы сярод мясцовых камандаў школьнікаў і вайскоўцаў. Аматары музыкі згуртаваліся побач пляцоўкі, на якой выступалі мастацкія калектывы. А было на што паглядзець: выступілі калектыў „Знічка" з Гайнаўскага белліцэя, фармацыя сучаснага танца „Viper" з Беластока, рок-гурт „Шантоўцы", мясцовая „Чарамшына" і духавы аркестр, „Нарвяне" з Пагажалак і „Фастынкі" з Фастаў. Амаль дзве з паловай гадзіны бавілі публіку спевам і музыкай. А пасля, увечары, згулялі традыцыйную забаву. І хаця надвор'е не надта спрыяла (было даволі холадна), удзельнікі мерапрыемства цёпла сустрэлі першамайскія святкаванні.

**Уладзімір Сідарук**

# Свята перамогі



*Ветэраны перад уваходам у Асавецкую крэпасць.*

[1 ☞ працяг]

Палкоўнік Вітальд Сацэвіч, які апекаваўся гасцямі, папракнуў мяне сёлета за тое, што апісваючы такі абед, які быў бадай два гады таму, напісаў я, што гасцей частавалі па анекдоту — агуркамі толькі. Гэтым разам агуркоў не было — пэўна каб не асацыяваліся мне з анекдотамі, але абед быў пышны: халодныя закускі, гарачыя вайсковы гарохавы суп і другая страва, паўднёвыя фрукты.

З Чырвонага Бору ветэраны пераехалі ў Асавец пабачыць тамашнюю крэпасць. У першую сусветную вайну царскія войскі ўтрымоўвалі яе на працягу адзінаццаці месяцаў, адбіваючы тры непасрэдныя атакі кайзераўскіх войск, а пакінулі яе не ў выніку тых атакаў, а ў выніку склаўшайся сітуацыі на фронце. У другую сусветную вайну савецкія байцы трымаліся ў крэпасці пяць дзён...

Сярод ветэранаў быў адзін з іх. Спытаў я яго, ці многа абаронцаў крэпасці асталося ў жывых.

— Тыя, што асталіся, жывымі не вярнуліся. Лепш пашанцавала тым, што ўцяклі: адпраўляліся на машынах за запчасткамі і... Апошнім разам акрамя мяне было яшчэ дваіх, сёння ўжо толькі я. Магчыма, што сённяшні візіт у Асавец, гэта мая лебядзіная песня.

Ветэран расказаў мне пра яшчэ адно цікавае здарэнне. Яго школьны сябра даслужыўся ваеннага звання генерала арміі і быў галоўным рэдактарам выдадзенай савецкім міністэрствам абароны гісторыі другой сусветнай вайны. Аднойчы яны сустрэліся і „наш" ветэран спытаў масціітага гісторыка:

— Скажы мне, хто вінаваты ў паражэнні савецкіх войск у пачатковым перыядзе вайны: я — лейтэнант на перадавой, ці Сталін?

— Скажу табе па-сяброўску, — адказаў генерал, — гэту гісторыю мы пісалі па заказе.

* * *

Яшчэ на могілках у Замбраве да мяне падышла жанчына і прасіла дапамагчы ёй у высвятленні лёсу яе бацькі. Вясною 1941 года, калі ёй было толькі дзесяць месяцаў, яго прызвалі на ваенныя зборы: спярша пад Мінск, а пасля быў пераведзены ў Шчучын, дзе будаваўся ваенны аэрадром, у 130 будаўнічы батальён; там яго засцігла вайна...

Усё свядомае жыццё жанчына шукала свайго бацьку. З цэнтральнага архіва савецкага міністэрства абароны атрымала яна інфармацыю, што ён прапаў без вестак у кастрычніку 1944 года. Дагэтуль не знайшла яна нікога, хто б за звыш трохгадовы перыяд сустрэў яе бацьку...

**Галіна Іосіфаўна Вышэдка**, якая пражывае ў Мінску па вуліцы Казінца 76-62, **шукае бацьку Іосіфа Іосіфавіча Прыбыльскага**, народжанага 7 сакавіка 1909 года ў вёсцы Навасёлкі Барысаўская раёна, заатэхніка па прафесіі, сапёра ў арміі.

Можа хто з вас, шаноўныя чытачы, чуў пра Іосіфа Прыбыльскага, можа хто ведае пра шлях яго 130 будаўнічага батальёна — дапаможце яго дачцэ знайсці хаця кволы след па бацьку — напішыце! Шчаслівыя дзеці прытуляюцца да сваіх бацькоў, а яе вайна пазбавіла такога асноўнага ва ўсёй прыродзе шчасця. Дачка ўсё жыццё чакае каб прытуліць, калі ўжо не самога татку, то хаця б вестачку пра яго апошнія дні, хаця б жменьку тае зямлі, якой ён аддаў свой апошні подых, а яна прытуліла яго навекі.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота аўтара*

# Пустаслоўная бязглуздзіца

**Адгалоскі**

Дагэтуль я не верыў, што Мікалай Панфілюк гэта пустаслоўны і неразважлівы чалавек. Пераканаўся я ў гэтым, калі прачытаў ягоны допіс „Пародыя" („Ніва" № 16 ад 18 красавіка 1999 г.). У ім аўтар вылівае на мяне вядро памыяў, намагаецца ўтаптаць у твань і абвінавачвае ў тым, чаго я не зрабіў. А ўсё дзеля таго, каб асмяшыць мяне за ранейшыя крытычныя матэрыялы ў яго адрас. А я ж нічога не прыдумваў, толькі абапіраўся на факты! Няўжо ж ліст, надрукаваны ў салідарніцкім „Tygodniku Białostockim" у 1990 годзе, не быў вамі напісаны? Там жа выразна стаіць ваша імя і прозвішча.

Мікалай Панфілюк у ранейшых допісах станоўча выказаўся пра апанентаў, некаторым прызнаў рацыю, каб у апошнім допісе ўсё раней сказанае пастаўіць дагары нагамі, гаворачы, што гэта ўсяго пародыя. Мне здаецца, што калі пішам пра „адваротную старану", тады для гэтых слоў прымяняем двукоссе. У ранейшых вашых публікацыях гэтага знака, якім выдзяляюцца словы, што ўжываюцца ў іранічным сэнсе, няма. Значыцца, усё гэта пустаслоўная бязглуздзіца!

А калі вы сталі ўспамінаць ранейшыя здарэнні, дык і я прыпомню адзін факт. У мінулым здарылася пэўнае недаразуменне паміж намі. Мы змагаліся ў конкурсе на лепшага карэспандэнта года. І вы, каб здабыць больш балаў, даслалі допіс, які пазней аказаўся плагіятам майго тэкста. Пасля праверкі фактаў вас нейкі час не друкавалі. Гэтае здарэнне вы мне тлумачылі такім чынам: „Была нядзеля, а я быў крыху выпіўшы і нічога ў галаву не лезла. Дык зрабіў дурніцу..." Пішу гэтае ў выніку вашай палымянай заявы: „з Сідаруком не хачу мець нічога супольнага!" А адносна нашай сустрэчы ў рэдакцыі магу сказаць адно: прывітаўся я з вамі сардэчна, прапанаваў чарку з чыстага сэрца (не ведаў я, што вы ўжо не п'яце), бо так прынята ў нашым гасцінным народзе. Тое, што вы ў маёй прапанове пабачылі нейкае каварства — гэта свайго роду гіпертрафіраваная інтэрпрэтацыя, нейкая неабгрунтаваная падазронасць.

Наконт вашай „парады" скажу адно: калі хто рашыўся выступаць публічна ў грамадскіх справах, хай помніць, што ставіць сябе на суд грамадскасці, а ў нашым выпадку — на суд чытачоў!

**Уладзімір Сідарук**

# Адным радасць, другім сорам

27 красавіка г.г. у Орлі адбылася сесія Рады гміны, на якой радныя ацэньвалі мінулагоднюю дзейнасць гміннай адміністрацыі. У ходзе пасяджэння старшыня Рэвізійнай камісіі Сцяпан Цімафяюк і член гэтай камісіі Аляксандр Шымански прадставілі вынікі кантролю. Камісія сцвердзіла, што бюджэт за 1998 г. выконваўся нязгодна з прынятым радай планам. Былі выпадкі самавольнай змены плана і выконвання пазапланавых інвестыцый.

Нязгодна з планам вяліся будовы дарог і водаправодаў, аддзелачныя работы ў жылым блоку пры школе. Насуперак пазіцыі рады куплена была аўтамашына „Датсун". Камісія канстатавала, што ў галіне гмінных інвестыцый пануе агульны хаос. Напрыклад, план даходаў карэкціраваўся двойчы, не было збудаваных 400 м дарогі з Грэдалёў у Рыгораўцы, затое па-за планам вяліся работы на дарозе ў Спічках. Не быў пракладзены водаправод з Орлі ў Шчыты па прычыне браку тэхнічнай дакументацыі і кштарысу з-за чаго гміне была адхілена датацыя. Таксама па віне гміннай адміністрацыі прапалі датацыі на будову дарог, жылога блока і ўпарадкаванне могільніка каля Рыгораўцаў з часу І сусветнай вайны.

Камісія адназначна сцвердзіла, што вінаватым у хаатычным вядзенні інвестыцый у гміне з'яўляецца войт Міхал Іванчук, які самавольна адмяняе прынятыя радай планы. Звычайна ў такім выпадку негаспадарны войт не атрымоўвае адабрэння рады, што ў сваю чаргу можа прывесці да змяшчэння войта з пасады. Аднак у Орлі большасць радных падтрымоўвае войта, не зважаючы на ніякія аргументы. А і войт падбаў, каб не страціць прыхільнасці некаторых радных і напярэдадні сесіі паслаў землечарпалкі і грузавікі ў стратэгічныя пункты, г.зн. на вясковыя дарогі сваіх прыхільнікаў.

У канчатковым выніку галасавання радныя станоўча ацанілі дзейнасць Гміннай управы і войта: 9 радных прагаласавала за „ўдзяленне абсалюторыя", 5 выказалася супраць, а 3 устрымалася ад голасу.

Пасля сесіі прыхільнікі войта радаваліся разам з ім, а членам Рэвізійнай камісіі і апазіцыйным радным было сорамна за калег, якія не могуць вызваліцца ад войтавага партыкулярызму.

**Міхал Мінцэвіч**

# Лаўрэат Нобелеўскай прэміі за мір

Гэтую высокую ўзнагароду — успомніце яшчэ мае словы — атрымае, і то хутка, прэзідэнт ЗША Біл Клінтан, які дзеля міру ў Югаславіі прыказаў сваім саюзнікам — Англіі, Нямеччыне, Францыі, Італіі — бамбіць Сербію. Польшча таксама не засталася ў даўгу, бо паслала ў Албанію спецыяльны батальён. Наш прэзідэнт А. Квасneўскі вядзе хітрую палітыку, якая абернецца яму ў карысць у будучых прэзідэнцкіх выбарах — ідучы за НАТО, ён даказаў, што з'яўляецца чалавекам Захаду, амаль усе палякі аддадуць свае галасы за яго. І мы, беларусы, таксама, бо сербская драма хутка нам выветрыцца з галавы, а магічны лозунг „левіца" зноў нас прыцягне.

Пасля апошняй вайны Амерыкай кіраваў прэзідэнт Трумен. Нобелеўскай прэміі за мір у той час яшчэ не было. Гэты палітык меў аднак вялікі шанц стаццa „лаўрэатам міру", бо ў сваім жыцці здзейсніў два вялікія подзвігі: загадаў кінуць на японскія гарады атамныя бомбы і даеў да стварэння Паўночнаатлантычнага пакта.

Фактычныя лаўрэаты міру — Л. Валэнса, М. Гарбачоў, А. Салжаніцын — асудзілі гэтую вайну адназначна. Л. Валэнса перад ад'ездам у Вашынгтон сказаў, што гэтая вайна непатрэбная, але ўжо на юбілеі НАТО выказаўся за бамбёжкамі. Найбольш рашуча з „наблістаў" супраць вайны ў Сербіі выказаўся А. Салжаніцын, асуджаючы агрэсараў з ног па галаву.

**Мікалай Панфілюк**

# Апошні сход

У пяцідзесятых гадах арганізаваўся ў Бельску-Падляшскім Раённы гуртoк Саюза пчалаводаў. Існаваў ён да канца сакавіка 1999 года і налічваў каля дваццаці членаў. Гуртoк карыстаўся неабходнымі прыладамі, а свае тавары пастаўляў у многія крамы ўсяе краіны.

Рынaчная эканоміка і адсутнасць дзяржаўнай субвенцыі давялі пчалаводаў да банкруцтва і спынення дзейнасці свайго гуртка.

Бельскі гуртoк пчалаводаў быў уладальнікам прылад для пчалаводства вартасцю каля дзевяці тысяч злотых. 28 сакавіка г.г. адбыўся апошні сход. Асноўнай мэтай яго была перадача маёмасці гуртка ў карыстанне аднаму чалавеку. Такую прапанову прад'явіў праўленню Сцяпан Сідарук з Сакоў. Удзельнікі сходу адобрылі прапанову свайго калегі. Калі прыйшлося выбіраць адказнага за маёмасць — усе адмовіліся. Не было ніводнага ахвотнага. Таму прысутныя аднадумна рашылі ўпаўнаважыць Сцяпана Сідарука.

Як мне сказаў Уладзімір Зіневіч з Бельска, незадоўга спыніць сваю дзейнасць і Ваяводскі Саюз пчалаводаў у Беластоку.

**(ус)**



# ВЕР — НЕ ВЕР

Даражэнькі Астроне! У нас у хаце бяда. Усё звязана з нашай дачкой. Не буду табе тлумачыць, што і як. А маёй сваячцы прыснілася вось што. Быццам яна з маёй дачкой на вёсцы, на сядзібе сваіх бацькоў. Яны ідуць у садок, каб назбіраць сліў, ды не бачаць іх. Яна кажа: „Дзяўчына, ідзем далей, там напэўна яны нападалі за зямлю і ляжаць пад дрэвамі". Ідуць далей — бачаць, расце дрэўца маладое, невялікае, лісця на ім няма, але абсыпана яно невялічкімі, падобнымі на маленькія слівачкі ці вішні ягадамі. У садзе бацькоў маёй сваячкі такога дрэва ніколі не было. Па садку ходзіць яе бацька, ён ужо даўно памёр, а тут ён жывы. Сама не ведаю, што тут і думаць, чаго спадзявацца. Справы маёй дачкі выглядаюць вельмі кепска.

**Анна**

Даражэнькая Анна! Сон тваёй сваячкі дае крыху надзеі, што сітуацыя палепшае. Калі ў хаце бяда, ды яшчэ з тваёй дачкой, дык можна сабе ўявіць, што дзеецца ў тваёй душы. І разумею, што кожнае слова пацяшэння табе сёння патрэбнае, як паветра. А ці магу я цябе пацешыць у ста працэнтах?.. Сон, здавалася б, павінен быў бы прадвяшчаць добры выхад справы, калі б узяць пад увагу яго пачатак.

Твая сваячка з тваёй дачкой шукалі слівы. Слівы, яны ж абазначаюць поспех у справах, задавальненне. Сліў аднак не было, не ляжалі яны і пад дрэвамі і гэта насцярожвае.

Было затое маладое дрэўца. Праўда, на ім не відаць было лісця (зялёнае лісце прадвяшчала б надзею), але ёсць нейкія ягады ці фрукты, якімі, як ты кажаш, было абсыпана дрэўца.

Тое маладое дрэўца магло б сімвалізаваць тваю дачку, а ягады, быццам маленькія слівачкі ці вішні, гавораць аб нейкім злачынным каханні, незаконнай сувязі. Не ведаю, добра гэта ці кепска, але пэўна, ад гэтага твае маркоты.

Бацька, якога ўбачыла твая сваячка ў сне, няўхільна сведчыць, што клопатаў яшчэ будзе.

**Астрон**

# А я сумую

Прачытаўшы ў 15-м нумары „Нівы" допіс Мікалая Панфілюка і адгалоску Мікалая Лук'янюка „І я не сумую" ў 19-м нумары, дайшоў я да вываду, што па камуне, хоць мала, а сумаваць трэба.

Што нам дала цяперашняя свабода — мы ўсе знаем і бачым: беспрацоўе, захварэш — без грошай і не думай лячыцца, за школу плаціць трэба, пэгээры распушчаныя, фабрыкі стаяць. За сваю пенсію, якой я дарабіўся пры камуне, трэба аплаціць падаткі, лякарствы, хлеб, а пра мяса лепш і забыць. А пры камуне лякарствы былі бясплатныя, ніхто не плаціў і за бальніцу. У бальніцы я працаваў шмат гадоў ды не бачыў, каб лекары бралі ад каго грошы.

Гавораць нам, што камуна набрала за мяжою пазычак, а мы цяпер плацім гэтыя даўгі. Камуна брала грошы і нам будавала фабрыкі, гуты, школы, бальніцы. А цяпер нашы бяруць грошы ды сабе будуюць палацы. Зараз жа будзем збіраць грошы на адбудову Югаславіі, у раён якой, па волі нашага дэмакратычнага ўрада, пасылаем нашых сыноў падтрымліваць амерыканскі парадак.

На 1 мая ў бок левых дэмакратаў ляцяць петарды. Што ж, у Сейме прагаласавалі яны за новы парадак у Еўропе, дык хай адчуюць гэта і на сабе.

**Дзядзька Захар**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




## Навіны з Internet

Ад некаторага часу па электроннай пошце распаўсюджваецца невялікі файл-праграма — „zab_luku.com". З'яўляецца ён электроннаю гульнёй, спраектаванай для асяроддзя DOS (праграма выдатна спрацоўвае і пад кантролем сучаснага Windows 98). Пасля запуску названага файла манітор камп'ютэра засцілаецца бел-чырвона-белым фонам (на ілюстрацыі, па вядомых прычынах, ён бел-шэра-белы). На гэтым жа фоне бегае ў выпадковых напрамках выява АА — Агульнавядомай Асобы. Задача гульца — пацэліць мышшу ў гэтую выяву. Унізе манітора невялікая кантрольная палоска з трыма паказальнікамі: „hits" — выстралы, якія дасягнулі мэту; „misses" — промахі ды „health" — працэнтны паказальнік здароўя АА, яе жыццяздольнасці. У дадзеным на ілюстрацыі выпадку АА карыстаецца выдатным (амаль стопрацэнтным) здароўем, бо паспяховых „hits" усяго чатыры, а „misses" ажно 24 (слабенькі з мяне гулец, не скрываю). Калі, аднак жа, колькасць „hits" павялічваецца (мой 6-гадовы сын ужо ў першай сутычцы дасягнуў поўную сотню) — здароўе АА рэзка зніжаецца. Калі ж гэты паказальнік дасягае нуля, тады... гм, гэтага рассакрэчваць не буду.

Аўтарамі гэтай нескладанай, але надзвычай займальнай гульні з'яўляюцца Restart J. F...off ды Mr. Lucky Boy.

**(ам)**

## Кубак у кубак

Кубак, кубак, дзе ты быў?
— П'яніц... малаком паіў.
Хлопцы, піўшы, падурэлі,
Пачастунак адхварэлі.
А я, кубак, шчыры, мілы,
Страціў гонар, вуха, сілу!

**Вандал Арлянскі**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. жонка бацькі, але не маці, 7. тонкая драўляная дошчачка для крыцця даху, 8. жонка Якава, 9. суседка Каліфорніі, 10. раптоўнае зніжэнне сардэчнай дзейнасці, 14. падбярозавік, 18. ляшчына, 19. паўночнафранцузскі сярэдневяковы пясняр, 20. горад на захадзе Сіцыліі, 21. афіцыйная заява аб незаконнай дзейнасці якой-небудзь асобы або ўстановы.

**Вертыкальна:** 1. гарады бярэ, 2. прадаўгаватая пасудзіна для кармлення жывёлы, 3. Арасіо, уругвайскі пісьменнік (1878—1937), 4. служыць у марскім флоце, 5. покрыўка з тканіны, 6. халуй, падхалім, 11. у царскай Расіі цывільны чын 8 класа, 12. тое, што асыпалася з гары ў выніку разбурэння пароды, 13. псеўданім Іосіфа Джугашвілі, 15. лёгкае драўлянае збудаванне для часовага жылля, 16. настольная папка для папер, канвертаў, 17. цвёрды папяровы лісток з выявай напр. дамы або караля.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 15 нумара**

**Гарызантальна:** Панама, Варшава, Рывера, „Рамаяна", дарада, Міксат, Рупахеу, люстра, макрота, Аркона.

**Вертыкальна:** кворум, прымак, халява, парад, навар, Мурад, Адаакр, „Аберон", Абухаў, ізюбр, сітро, трама.

Рашэнне: **Станіслаў Манюшка**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Юрасю Сцяпанаву** з Віцебска.

## Кароткі курс параноі

**Трагізм недасяжнасці**

На тэлеэкране амерыканскі бестселер. XXII стагоддзе. Вайна гігантаў: Амерыка — Расія (а дзе НАТО?). Бы варам абдало. Бог ты мой! Куды ідзем? Гэта ж свет Рэйгана! Абраннікі барацьбы, вы ўсё у пошуках ворага. Дакуль будзеце жыць гэтым шаленствам?

— Вайна — наша жыццё! — вібрыруе далёкае рэха. Параноідныя псіхапаты.

**Вечна жывы**

Каін. Ён заўсёды з намі.

**Гангстэр**

Аптымістычны герой нашага часу.

**Гісторык**

Прафесійны скажальнік фактаў.

**Непапраўны нарцыс**

Мар-дэ-Янка, мянушка „Дучэ".

**Жыццяпіс**

Апісанне найлепшых бакоў свайго жыцця.

**Лінія Керзана (чыт.: Херзана)**

Фалацэнтрычны твор Антанты — заходні „хер" уваткнуты ва ўсходнюю „зону".

**Моцныя заднім розумам**

Акцёры, саштурхнутыя са сцэны новага этапу.

**Жыць памяццю**

Адмовіцца ад жыцця.

**Высноваа рацыяналіста**

Змагацца з цемрай немагчыма. Яна непраглядная і неахопная. У яе касмічныя памеры. Скарыся ёй.

**Сідар Макацёр**

*Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка*

## Ачалавечыліся

На экватары ў лясах жылі прыматы,
Па экватары круціліся калматыя.
А хто ўлева ці ўправа ўбакавіўся,
Той хвастом накручаным накрыўся.
Грэла сонца — на галінах загаралі,
Ночы ў вечных футрах каратталі.
Ні СНІДу не ведалі, ні бяды,
Хапала ўсім какосавай яды.
Аж з'ехаў у буш аблуплены галяк,
Ні то гарыла, ні то гляк.
І запісаў нас у род свой гамінід.
Адняў какосы. Кажа, што за СНІД.
Загнаў у клеткі. Пэўна на вякі.
Завошта? Адкажыце, сваякі.

Ачалавечылася малпа — і прыплод
Ганьбай пакрыў увесь малпін род.

## Хамулітыка

Даў маху хам, б'ючы
У морду хама другога.
Сваім кулаком трасучы,
Пабіў узяў сябе самога.

Не трасі, хаме, трантамі,
Ні білетамі, ні медалямі,
Ні вымпеламі, ні транспарантамі.
Новы век — не так за гарамі.

А там ужо іншыя хамы
Стопчуць вашыя п'едэсталы,
Разраўняюць пагоркі з палямі,
Мячы струшчаць, панцыры,
забралы.

Спарахнеюць магніт і папера,
І плакаты, і пастаменты...
Хай вас, хамы, возьме халера
З палітычным асартыментам!

**Вандал Арлянскі**

Белавежскія анекдоты

## Перахітрылі казу

Распачатая ў другой палове дваццатых гадоў пабудова рымска-каталіцкага касцёла ў Белавежы працягвалася надта доўга. Старэйшыя жыхары апавядаюць аб смешным здарэнні, якое трапілася занятым на будове работнікам.

Уваходзячы на рыштаванне, пакідалі яны на нейкім ніжэйшым памосце свае торбы з харчамі. Аднойчы, калі ўжо надышоў час каб падсілкавацца, са здзіўленнем сцвердзілі, што іхніх бутэрбродаў няма. Галодныя і злосныя работнікі вярнуліся да пакінутых заняткаў. Ідэнтычная сітуацыя паўтарылася на другі дзень. „Ну, хопіць гэтага!" — сказалі пацярпеўшыя. Вырашылі, што назаўтра адзін з іх паназірае за ежай. Узбударажаны вартаўнік засеўся на варце ўжо з самай раніцы. Жанчына, якая жыла непадалёку, як штодзень, прывяла на травяністы пляц сваю казу.

— Можа гэтая жанчына падкрадае нашы бутэрброды? — падумалася яму. Але жанчына зараз жа і вярнулася да сваіх дамашніх заняткаў. Прыглядваючыся міжвольна казе, вартаўнік у нейкі момант са здзіўленнем сцвердзіў, што тая... узлазіць на рыштаванне. Рабіла гэта вельмі спрытна. Дабраўшыся да астаўленай ежы, пачала яе з'ядаць. Работнікі не маглі надзівіцца хітрасці жывёліны. Вырашылі казу правучыць. На другі дзень расслабілі яны дошкі на адным з памостаў. Разахвочаная бяскарнасцю ласуха смела ўвайшла на „злодзейскі шлях". Раптам дошкі пад ёй рассыпаліся і каза звалілася на зямлю. На жаль, забілася! Яе гаспадыня не вельмі хацела паверыць у расказаную гісторыю. Усё ж, факт аставаўся фактам.

**Запісаў Пётр Байко**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Муж позна вярнуўся дадому; жонка дакарае яго.

— Спі і маўчы! — гаворыць муж у злосці.

— Спаць то я буду, але маўчаць — ніколі!

* * *

Маркіза дэ Пампадур шпацыруе па версальскім парку. У пэўнай хвіліне схіляецца, каб паправіць шнуроўку. Тады з-за кустоў выскаквае маладзён і далонню здаравенна ляпае яе ў выпучаную задніцу. Каралеўская любіміца выпрамляецца і кідае позірк на гарэзніка.

— Ой, мадам, — мармыча той у страху, — калі ваша сэрца такое цвёрдае, як ваша задніца, тады маёй кар'еры канец.

— Але калі ваш мужчынскі атрыбут такі цвёрды, як ваша далонь, — адказвае маркіза, — тады ваша кар'ера толькі пачынаецца!

* * *

Гутараць два сябры:

— Як табе шанцуе ў шлюбным жыцці?

— Ідэальна: мая жонка прыгожая, мілая, праўдзівая і верная.

— Адкуль гэта ведаеш?

— Сама мне прызналася ў гэтым.

* * *

Стук у дзверы. Гаспадар адчыняе. На парозе стаяць два мужчыны:

— Мы з дабрачыннага таварыства, робім збор на дом для пажылых жанчын. Ці вы маглі б таксама нешта ахвяраваць?

— Зразумела, маю жонку!